22 студзеня 2021 | № 3 (711)

Выдаецца з сакавіка 2002 года

# Новы час

novychas.by

АГУЛЬНАПАЛІТЫЧНАЯ ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА

КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА
ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

ISSN 2218-2144

Як судзілі Святлану Алексіевіч
стар. 10



# Падмурак разбураецца
# Рухнуць і муры

Сяргей КАЙКО

**Вы, канешне, усе ўжо ведаеце: у траўні-чэрвені «Мінск-Арэна» будзе стаяць пустая. Ну, магчыма, туды заедзе з канцэртам які-небудзь Стас Міхайлаў ці завітае з чосам Валерый Сюткін — гэтым без розніцы, дзе збіраць грошы, якія не пахнуць. Розніцу адчула сусветная — і не толькі хакейная — супольнасць. І ў выніку яе калектыўных намаганняў Міжнародная федэрацыя (IIХФ) усё ж такі забрала ў Мінска права правядзення Чэмпіянату свету–2021.**

Рашэнне абяцалі прыняць напрыканцы студзеня — такі быў каленкор да візіту ў Беларусь прэзідэнта IIХФ Рэнэ Фазеля. Але ён прыехаў 11 студзеня і наламаў такіх дроваў, што ў Цюрыху вырашылі не цягнуць. І роўна праз тыдзень, у панядзелак, хуценька сабралі на пасяджэнне раду — дый, прагаласаваўшы, пазбавілі беларускую сталіцу вялікага хакейнага форуму. Амаль паводле класікі — парэзалі, не чакаючы перытанітаў.

Пасля вяртання з Мінска Фазель штодня рабіў прыкладна адно і тое ж — актыўна апраўдваўся і паволі пераабуваўся. То ён — яшчэ які месяц таму — ледзь не кулаком па стале не грукаў, так хацеў пакінуць у сіле папярэднія дамоўленасці. То-бок, каб чэмпіянат прайшоў на два гарады дзвюх краін — у Мінску і Рызе. Аднак пасля яго камандзіроўкі на наш «кавалачак зямлі» нават тыя крохкія, ілюзорныя надзеі спадара Рэнэ рассыпаліся ўшчэнт, як люстэрка пасля падзення на кафлю.

Як выявілася неўзабаве пасля вяртання Фазеля дадому, краіны дэмакратыі не даравалі яму праявы занадта братэрскіх адносін з Лукашэнкам і яго атачэннем. Усіх гэтых цёплых абдымкаў, паціскання рук, зазірання ў вочы ды словаў накшталт: «Спадар прэзідэнт, вельмі рады цябе бачыць!» Не даравалі тым болей таварыскага фотаздымка з кіраўніком Беларускай федэрацыі хакея Дзмітрыем Баскавым, які падазраецца ў датычнасці да смерці Рамана Бандарэнкі і абвешчаны неўязным на тэрыторыі Еўрасаюза. Карацей, стары ліс Фазель у Мінску з трэскам правaліў самую, здавалася б, бяспечную частку свайго візіту — эстэтычную. Ён нібыта страціў берагі, не ўсвядоміўшы, наколькі таксічным у вачах Захаду стаў палітычны істэблішмент Беларусі за мінулыя месяцы.

Прэзідэнт IIХФ дапусціў настолькі цяжкую тактычную памылку, што прыхільнікі канспіратыўных тэорый нават загаварылі пра адмысловы намер. Праз тое пасля і няўклюдна апраўдваўся ў амаль штодзённых інтэрв'ю. Казаў, што хацеў як лепш — намагаўся выкарыстаць чэмпіянат як спробу прымірыць беларускую ўладу і апазіцыю. Казаў, што прымаючы бок абяцаў сустрэчу без тэлекамер, што пра сумеснае фота падчас матчу мінскага «Дынама» яго папрасіў Баскаў, а ён, немалады чалавек, не падазраваў, што гэты здымак так хутка патрапіць у сацсеткі і ў прэсу.

Шмат чаго казаў Рэнэ Фазель — і ўсё гучала зусім непераканаўча. Еўрапейская прэса вазіла яго тварам па стале. Еўрапейскія палітыкі гучна папракалі за панібрацтва з кіраўніком краіны, якую накрыла дзявятым валам рэпрэсій, дзяржаўнага гвалту і беззаконня. Еўрапейская хакейная супольнасць паказвала пальцам.

Дабіў жа Фазеля еўрапейскі бізнес з ліку буйных і самых лаяльных спонсараў чэмпіянатаў свету. Чэшскі аўтаканцэрн Skoda, нямецкі касметычны брэнд Nivea, вытворца-гігант машынных аліваў Liqui Moly — усе яны катэгарычна выступілі за перанос чэмпіянату з Мінска, у адваротным выпадку прыгразілі пазбавіць IIХФ фінансавай падтрымкі. Аналагічны празрысты намёк зрабіла швейцарская кампанія Tissot па вырабе знакамітых гадзіннікаў класа «люкс», але ад яе дэмарш ужо, нібыта, і не спатрэбіўся.

За два дні да вырашальнага галасавання Фазель фактычна выкінуў белы сцяг. Безнадзейна вымавіў у чарговым інтэрв'ю: «Каб чэмпіянат свету застаўся ў Мінску, павінен адбыцца амаль што цуд...»

Цуд, аднак, не здарыўся. Рада IIХФ забрала турнір у Мінска. Для гэтага яе чальцам нават не давялося збірацца ў адной залі — хапіла відэасувязі. Па сутнасці, Міжнародная федэрацыі прыняла дзяжурнае рашэнне, хаця яшчэ пару месяцаў таму яно здавалася цяжкім, дыскусійным і непрадказальным.

Прыкметна, што выніковы вердыкт сфармулявалі даволі дыпламатычна. Спаслаўшыся на 9 параграф статута, канстатавалі, што ў Мінску будзе цяжка забяспечыць бяспеку ўсім датычным — удзельнікам, афіцыйным асобам, гледачам і журналістам. Бо, з аднаго боку, «растуць палітычныя хваляванні», а з іншага — трывогу спараджае «COVID-19».

І ўласна ўсё — альтэрнатыўнае месца, куды перанясуць гульні з Мінска і дзе менш ковіду і палітычных хваляванняў, абяцаюць знайсці цягам двух тыдняў. Кажуць, найбольш верагодна, што ўвесь турнір цалкам адбудзецца ў Латвіі, але ці нам гэта не ўсё роўна?

Нам цяпер рабіць высновы. Падводзіць рысы, лавіць фідбэк.

Ён, фідбэк, зрэшты, увогуле традыцыйны. Афіцыйныя медыі падымаюць лямант — звыкла падмяніўшы паняцці дзяржавы і краіны, улады і грамадства, галосяць пра страчанае свяце, якога так прагнуў увесь народ. Прыхільнікі перамен, зразумела, на пазітыве, бо сарвалася спроба Лукашэнкі хоць нейкім чынам легітымізаваць сябе ў вачах Захаду і нанова ўвайсці ў кола еўрапейскіх элітаў. Носьбіты стакгольмскага сіндрому ўвагнулі галовы ў плечы: кажуць, ну ўсё, гамон, цяпер рэпрэсіі будуць пашырацца, паглыбляцца, і нікому мала не падасца.

Аднак галоўная выснова ў гэтай гісторыі, бадай, іншая. Спорт наўпрост на нашых вачах выяўляецца драйверам пратэстава руху, які прыносіць найбольшы плён. Што там пакеты санкцый ЕС ці заклікі ЗША «прыпыніць», «вызваліць», «улагодзіць». Пакуль гэта толькі словы, у той час, як беларуская спартыўная супольнасць — у першую чаргу Фонд спартыўнай салідарнасці — пры падтрымцы землякоў ва ўсім свеце і ўвогуле дэмакратычнага заходняга соцыуму робіць рэальныя справы.

І вось ужо Міжнародны алімпійскі камітэт заблакаваў кіраўніцтва НАК Беларусі на чале з Аляксандрам і Віктарам Лукашэнкамі. І вось ужо Мінск застаўся без хакейнага ЧС. На чарзе — этап Кубка свету па фрыстайле.

Шмат гадоў спартсмены лічыліся непарушным электаральным падмуркам Лукашэнкі. Аднак цяпер муры разбураюцца — і відавочна, што гэта незваротна, гэта не проста так.

# Чаму супраць Лукашэнкі выходзілі пенсіянеры

**З плакатамі і лозунгамі людзі сталага веку кожны панядзелак хадзілі па цэнтры Мінска на маршы мудрасці і патрабавалі адстаўкі Лукашэнкі. Чаму яны гэта рабілі? І якія наступствы для іх мае ўдзел у пратэстах?**

«Настоящее время» расказвае пра Тацціяну Зялко, якая пасля адной са снежаньскіх акцый аказалася на Акрэсціна. Тады пенсіянераў атачылі на плошчы, дзе яны вадзілі карагод вакол елкі, і закінулі ў аўтазак. Для жанчыны марш скончыўся суткамі ў ізалятары і буйным штрафам.

«Мяне вельмі радуе, што я ўвесь час бачу новыя твары, — кажа пенсіянерка. — Памятаеце, раней адны і тыя ж выходзілі на акцыі? А тут... Калі размаўляеш, чуеш: вось мой сын ці зяць выйшлі па хлеб і не вярнуліся. Я хачу, каб мае дзеці нармальна жылі, таму выходжу».

Яшчэ адзін удзельнік пратэстаў, пенсіянер Вячаслаў Галецкі, кажа, што ніколі не падтрымліваў Аляксандра Лукашэнку. А на пратэсты выходзіў, бо яму сорамна за сваё пакаленне.

«Сорамна Беларусь пакідаць з гэтым прэзідэнтам, якога мы прывялі да ўлады, наша пакаленне, — заўважае Вячаслаў Галецкі. — Хацелася б пакінуць што-небудзь прыстойнае замест яго».

Не прапускаў маршы мудрасці і 84-гадовы Ян Грыб. Яго ў пачатку студзеня сілай забралі з дому і адвезлі ў суд, але пенсіянер адмовіўся ўдзельнічаць у пасяджэнні і выйшаў з залы. У выніку мужчыну прызналі вінаватым ва ўдзеле ў несанкцыянаванай акцыі і прысудзілі штраф 450 долараў.

«Я кажу: гэта не суд, гэта цырк. Вы не кіруецеся ні Канстытуцыяй, ні законамі, а выконваеце тое, што вам сказалі зверху, — распавядае Ян Грыб. — Вось вам сказалі вырываць грошы ў людзей, таму вы не саромецеся нават у інваліда, старога чалавека выцягваць апошнюю капейку, забіраць у яго апошні кавалак хлеба».

Па словах Яна Грыба, людзі ў Беларусі нарэшце зразумелі, якая ўлада кіруе краінай 26 гадоў, прычым зразумелі нават ягоныя аднагодкі, якія заўсёды былі апорай рэжыму Лукашэнкі.

За ўдзел у акцыях пенсіянеры атрымліваюць штрафы ў 2–3 разы большыя, чым іх пенсіі. Выплаціць гэтыя грошы дапамагаюць фонды салідарнасці і неабыякавыя беларусы. Нягледзячы на рэпрэсіі, людзі сталага веку людзі і далей маюць намер выходзіць на вуліцы.

# Што вядома пра затрыманых блогераў

### Шэрага Ката абмяжоўваюць у перапісцы

Блогер Дзмітрый Казлоў, які вёў стрымы на ютуб-канале «Шэры Кот», нядаўна даслаў з «Валадаркі» паштоўку, піша «Свабода». Яе атрымала мінчанка Анастасія Емяльянава. Яна лічыць, што блогера абмяжоўваюць у перапісцы.

«Свае лісты да яго я нумарую, дык ён напісаў, што адказвае на другі ліст і пытаецца, пра што быў першы. Значыць, не атрымаў. Вельмі былі рады майму лісту, прасіў пісаць больш. Бачна, што ён нібы ў інфармацыйным вакууме. Пра сябе нічога дрэннага не паведаміў, галоўнае, што жывы-здаровы», — кажа Анастасія Емяльянава.

Зміцер Казлоў скончыў 4 курсы Горацкай аграрнай акадэміі і захапіўся відэаблогерствам. Пазней расказваў, што спачатку займаўся толькі сацыяльнымі тэмамі, але «само жыццё ўцягнула ў палітыку». У канцы 2019-га асвятляў акцыі ў абарону незалежнасці, якія ладзіў у Мінску Павел Севярынец. Мінулай зімой Казлова асудзілі паводле артыкула 23.34 агулам на 120 сутак арышту.

10 чэрвеня яго затрымалі ў Мінску і асудзілі на 20 сутак адміністрацыйнага арышту, але з Акрэсціна на волю не выйшаў — стаў яшчэ адным фігурантам крымінальнай справы Сяргея Ціханоўскага, якую завялі па 342-м артыкуле Крымінальнага кодэкса аб арганізацыі групавых дзеянняў, якія груба парушаюць грамадскі парадак.

Ад кастрычніка Дзмітрыя Казлова ўтрымліваюць у СІЗА на Валадарскага, праваабаронцы прызналі яго палітвязнем. У блогера няма бацькоў, звестак пра яго на волю трапляе недастаткова. Дзмітрый кажа, што напісаў 4 лісты ў «Новы Час», але ў рэдакцыі пакуль ніводнага не атрымалі.

### Павел Спірын: «Паветра жадаю вольнага»

З відэаблогерам Паўлам Спірыным лістуецца актывістка Вольга Быкоўская.

«У адным з лістоў падрабязна апісаў, як праходзіць кожны турэмны дзень, і адзначыў, што дні вельмі падобныя, параўнаў турэмны час з "днём сурка". Але, спадзяецца, гэтак будзе не заўсёды, і дадае: "Паветра жадаю вольнага!"», — кажа Вольга Быкоўская.

Павел Спірын размяшчаў свае блогі на youtube, ягоны відэафільм «Айчым» пра Лукашэнку сабраў каля 945 тысяч праглядаў. Паўла затрымалі 4 верасня ў ягонай кватэры. Праваахоўнікі зрабілі тамператрус і забралі шмат тэхнікі. Крымінальную справу завялі за фільм «Грань» пра наркагандаль у Беларусі. Ён быў занесены ў спіс экстрэмісцкіх матэрыялаў. Абвінавачваюць паводле артыкула 130 КК — наўмысныя дзеянні, скіраваныя на распальванне варожасці.

Павел Спірын быў сябрам руху «За Свабоду», летась спрабаваў вылучацца кандыдатам на прэзідэнта, але ягоную ініцыятыўную групу Цэнтравыбаркам не зарэгістраваў. Сярод прызнаных палітвязнямі Паўла Спірына няма.

### Аляксандр Кабанаў на ўмовы не скардзіцца

Вольга Быкоўская таксама падзялілася цытатамі з ліста, які атрымала ад блогера Аляксандра Кабанава. Гэта вядомы актывіст з Брэста, які да арышту быў прэсавым сакратаром выбарчага штабу Святланы Ціханоўскай. Аляксандра затрымалі яшчэ да выбараў, 15 чэрвеня. Ён сядзеў у Брэсцкім СІЗА, потым на «Валадарцы» ў Мінску, цяпер зноў у Брэсце, дзе ўжо азнаёміўся з крымінальнай справай. Завялі справу на Кабанава паводле 342 артыкула — аб арганізацыі і падрыхтоўцы дзеянняў, якія груба парушаюць грамадскі парадак. Сваёй віны Аляксандр не прызнае і піша, што з нецярплівасцю чакае суда. Вось кавалак з ягонага ліста:

«Вельмі спадзяюся, што будуць журналісты, і яны пабачаць, як у нас шыюць справы, гэта нават не белыя ніткі, а нейкія вяроўкі для бялізны, канаты...»

Аляксандр Кабанаў не скардзіцца на ўмовы ў ізалятары. Марыць пра рыбалку і спадзяецца, што да выхаду на свабоду ўсю рыбу не пераловяць.

### Вікторыя Пальчыс: «Фота дачкі да яго не прапусцілі»

Блогер, ранейшы і цяперашні палітвязень Эдуард Пальчыс, пакуль ідзе следства па ягонай справе, сядзіць у СІЗА Жодзіна. За час зняволення ў яго нарадзілася дачка Эмілія, якой ён не бачыў нават на фота. Вікторыя паведаміла, што фотаздымак яму не перадалі.

«Мо які маёр цяпер разглядае нашу дачку, а яму здымак не перадалі. Чаму? Прыкра. Пазаўчора з Эдуардам бачыўся адвакат. Вось ведаем цяпер, што нашы лісты ў Жодзіна яму зусім не даходзяць, адпаведна, і фотаздымак дачкі ён не атрымаў. Ягоны тата піша яму амаль кожны дзень, але ён нічога не атрымлівае. А вось некаторыя лісты ад сяброў і знаёмых да яго дайшлі. Атрымаў ліст ад жыхароў Сенніцы, усім дзякаваў. Ад яго рэдкія лісты ідуць, адзін па 3 тыдні», — расказала Вікторыя.

Яна непакоіцца за здароўе мужа. Ведае, што ён перахварэў на нешта кшталту прастуды. Але быў гэта каронавірус ці штосьці іншае, незразумела, бо аналізаў не бралі.

«Прасіў сабраць і перадаць яму туды аптэчку», — кажа Вікторыя.

У верасні 2020 года Эдуарда Пальчыса асудзілі на 39 сутак, але на волю не выпусцілі. Блогера вінавацяць паводле 293 артыкула — «арганізацыя масавых беспарадкаў».

# Участковы: «Я не прадаюся»

**22-гадовы Аляксандр Кучынскі з Нарачы працаваў участковым інспектарам міліцыі ў Мядзельскім РАУС. Яго звольнілі 14 снежня 2020 года «за размяшчэнне інфармацыі, якая дыскрэдытуе дзяржаўныя органы, што пацягнула за сабой прычыненне шкоды іміджу і аўтарытэту органаў унутраных спраў».**

Аляксандр захварэў на каранавірус і выйшаў на працу 10 снежня. Кажа, што і не падазраваў, што супраць яго праводзіцца службовая праверка. На наступны дзень па абедзе начальнік паклікаў у кабінет, дзе яму сказалі знаёміцца з матэрыяламі праверкі. Потым забралі пасведчанне і жэтон, паехалі дахаты, забралі форму.

«Канкрэтна ў заключэнні праверкі было ўказана, што размясціў верш, на які ёсць спасылка "УКантакце"», — сказаў Аляксандр.

Паводле правяраючых, гэты верш выклікаў вялізны грамадскі рэзананс, то-бок набраў больш за сто праглядаў. Аляксандр спрабаваў гэта абвергнуць у рапарце. Ён зрабіў скрыншот і ўказаў, што на 12 снежня верш набраў усяго 38 праглядаў. Прычым палову з іх зрабілі супрацоўнікі падчас службовай праверкі.

«Далей у заключэнні ёсць сказ, які невядома як там з'явіўся, што ў той жа час у тэлеграм-каналах "Выбар нарачанцаў" і "ProНарач" з'явіліся вершы зневажальнага характару на адрас намесніка начальніка Мядзельскага РАУС Дзмітрыя Рыбакова. Гэтых вершаў я не пісаў. Якім чынам гэта адносіцца да мяне і да майго верша, я не разумею», — сказаў Аляксандр.

*Идет за свободой весь мир.*
*Никто не остался в квартирах.*
*Нет правды в ударах дубин,*
*Не выстоят люди в мундирах.*

«Яны палічылі, што гэтым вершам я дыскрэдытаваў гонар і годнасць супрацоўнікаў органаў унутраных спраў. Я сам юрыст. Я пісаў, каб да мяне не падкапаліся ў выпадку чаго, — кажа Аляксандр. — Там жа няма згадкі пра саміх работнікаў унутраных спраў. "Люди в мундирах", але ў "мундзірах" бывае нават бульба. Таму дакапацца тут складана».

Аляксандр у вершы выказаў сваё меркаванне пра сітуацыю і ўпэўнены, што мае на гэта поўнае права, прадугледжанае Канстытуцыяй.

«Лічу, што такім чынам яны парушылі мае канстытуцыйныя правы, — кажа Аляксандр. — Але ўсё пачыналася нашмат раней, калі была перадвыбарчая кампанія, нас прымушалі ісці на датэрміновыя выбары, я не пайшоў, былі праблемы. Потым забіралі людзей у Мядзелі, я адмовіўся складаць пратаколы па артыкуле 23.34. Са мной праводзілі гутарку. У выніку ўсё вылілася ў звальненне».

Да звальнення Аляксандра былыя таварышы па службе паставіліся па-рознаму.

«Калі падпісваў абходны ліст, некаторыя нават плакалі, некаторыя спачувалі, з некаторымі працягваю зносіны, добрыя людзі там таксама ёсць. Але ў бальшыні пераcталі пускаць у РАУС, перасталі вітацца і размаўляць».

Цяпер Аляксандр шукае працу.

«Пакуль, шчыра кажучы, не ведаю, што рабіць. Месяц быў у дэпрэсіі, цяпер крыху ачуняў, пачаў дзейнічаць».

Аляксандр вучыўся на вочнай форме ў Акадэміі МУС на следча-экспертным факультэце з 2016 па 2020 год. З ім быў падпісаны кантракт на 9 гадоў (4 гады навучання і 5 гадоў адпрацоўкі ў Следчым камітэце, міліцыі ці ў любой іншай сілавой структуры). Цяпер атрымліваецца, што ён не адпрацаваў кантракт, і Акадэмія МУС бліжэйшым часам выставіць яму рахунак за навучанне ў памеры каля 50 тысяч рублёў.

Ён згадвае, як падчас навучання ў Акадэміі, калі збіралі подпісы за кандыдатаў у прэзідэнты, пасля дзяржаўных іспытаў завіталі людзі, якія збіралі подпісы за Лукашэнку.

«Усе мы знаходзіліся ў вялікай зале, там сказалі, што справа добраахвотная і нікога прымушаць не будуць, маўляў, калі хто подпіс ставіць не хоча, прапанавалі пакінуць залу, — сказаў Аляксандр. — Дык за хвіліну ніводнага чалавека там не засталося. Праз дзень гэта, як нам сказалі, дайшло да міністра Караева, усім загадалі вярнуцца назад і паставіць подпіс, каб не было "праблем"».

Аляксандр лічыць, што яго звольнілі з парушэннем заканадаўства. Па ягоных словах, цяпер усё, што адбываецца ў краіне, парушае Канстытуцыю і заканадаўства.

«Я ўсё рабіў правільна і нічога дрэннага не зрабіў. Я лічу, што галоўнае — не грошы. Атрымліваецца, што мяне проста купілі за гэтыя 50 тысяч. А я ж так не прадаюся», — сказаў былы міліцыянт.

**«Радыё Свабода»**

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Цацка для дарослых мужыкоў

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Люблю корпацца ў старой тэхніцы, і ў тэхніцы ўвогуле. Нядаўна мне аддалі старую відэакамеру SONY. Усе, хто разбіраецца ў відэакамерах, кажуць: «Навошта? Цяпер тэлефоны здымаюць лепш, чым яна!» А мне цікава: ці змагу я яе прымусіць працаваць, як ёй належыць?**



Фота www.gomel.today

Але гэтая мая цікаўнасць да тэхнікі не ідзе ні ў якое параўнанне з аналагічнай цікаўнасцю прадстаўнікоў урада і Міністэрства энергетыкі. Дзеля сваіх забавак яны адгрохалі цэлую атамную станцыю. І цяпер ганяюць яе на розных рэжымах, спрабуючы зрабіць тое ж самае, што і я, — прымусіць яе працаваць так, як і належыць. І не толькі «як належыць», але і правяраюць яе на трываласць.

12 студзеня паведамлялася, што рэактар на АЭС выведзены на 100% магутнасці. Згодна з гэтым паведамленнем, «цеплавая магутнасць блока складае 3200 МВт, электрычная магутнасць — 1170 МВт. На гэтым узроўні магутнасці на энергаблоку, у адпаведнасці з праграмай этапу доследна-прамысловай эксплуатацыі, працягнуцца статычныя і дынамічныя выпрабаванні», — канстатавала прэс-служба Мінэнерга Беларусі.

А ўжо ў суботу, 16 студзеня, тое ж Мінэнерга паведаміла пра аварыйнае адключэнне першага энергаблока БелАЭС ад энергасеткі «пасля спрацоўвання сістэмы абароны генератара». У паведамленні адзначалася, што радыяцыйны фон у раёне станцыі знаходзіцца ў норме, а адключэнне адбылося пры нагрузцы ў 1200 МВт.

Спадарства, АЭС — гэта не відэакамера SONY! Калі, згодна з першым паведамленнем, 1170 МВт — гэта 100% магутнасці станцыі, навошта вы разганяеце яе да 1200 МВт? Вам Чарнобыля было малавата? Ці трэба нагадаць, што ЧАЭС выбухнула менавіта ў выніку эксперыменту, — выпрабавання так званага рэжыму «выбягання ротара турбагенератара», няслушных дзеянняў персаналу ў час гэтага эксперыменту, а таксама з-за канструкцыйных асаблівасцяў АЭС?

Варта адзначыць, што рэактар ВВЭР-1200, які працуе на беларускай станцыі, амаль не адпрацаваны, першы рэактар такога кшталту быў запушчаны на Навававаронежскай АЭС толькі ў 2017 годзе. То-бок, мы да канца не ведаем, як ён паводзіць сябе на практыцы. Згодна з Вікіпедыяй, яго «чыстая» магутнасць — 1110 МВт, а магутнасць «брута» — 1194 МВт. На якую тады халеру спадары з Мінэнерга разганяюць яго да звышпарогавых і «не прадугледжаных інструкцыяй па эксплуатацыі» 1200 МВт? Паглядзець, што атрымаецца? Зразумела, нічога добрага.

Дарэчы, у інструкцыі па эксплуатацыі любой прылады зазвычай пішуць: у выніку няслушнай і не адпавядаючай прызначэнню эксплуатацыі гарантыя на яе губляецца. Цікава, ці прапісаны такі ж пункт у дачыненні да АЭС?

Падаецца мне, у гэтай сітуацыі адбываецца тое, пра што папярэджвалі не толькі беларускія эколагі, але і беларускія палітыкі, — Сінявокая стала пляцоўкай для небяспечных атамных эксперыментаў. «Росатам», згодна з праектам якога пабудаваная станцыя, якраз і зацікаўлены ў тым, каб «паганяць» рэактар на розных магутнасцях, праверыць яго на трываласць ды бяспеку і вырашыць, якія канструкцыйныя асаблівасці трэба выправіць.

А нашы чыноўнікі — і рады старацца. Нягледзячы на тое, што гэта вельмі небяспечна для краіны.

У сувязі з АЭС ёсць яшчэ адна цікавая навіна. 18 снежня, у анамальныя маразы тое ж самае Мінэнерга паведаміла, што нашая краіна «ў рамках двухбаковай дамовы аб аказанні аварыйнай дапамогі» экспартавала на Украіну 3,1 мільёна кВт/гадзін электраэнергіі. Пастаўкі выкананы з мэтай забеспячэння ўстойлівай працы энергасістэмы Украіны ў перыяд неспрыяльных умоў надвор'я.

Нагадаю, у час тэрміновых паставак АЭС была спыненая. Гэта азначае, што ў Беларусі не існуе праблем з электрычнасцю. Мы нават можам экстранна падзяліцца ёю з суседзямі. Дык навошта мы ўвогуле будавалі гэтую станцыю?

Адказ, падаецца, толькі адзін, і агучаны ён быў на пачатку артыкула: каб дзядзькі з Мінэнерга маглі пагуляцца з новай тэхнікай.

Яшчэ цікавосткі, ускосна звязаная з АЭС, прыйшлі да нас з Белстату. Нягледзячы на «жэстачайшыя» патрабаванні Лукашэнкі забяспечыць рост эканомікі ў 2,8% у 2020 годзе, ВУП Беларусі ў за мінулы год упаў на 0,9% у адносінах да 2019 года. Згодна з той жа статыстыкай, у 2020 годзе аб'ём прамысловай вытворчасці Беларусі знізіўся за год на 0,7%. Запасы гатовай прадукцыі на 1 студзеня 2021 года склалі 65,3% да сярэднямесячнага аб'ёму прамысловай вытворчасці.

Не будзем цяпер казаць, пра што гэтыя лічбы яскрава сведчаць: урад Беларусі пад кіраўніцтвам Галоўчанкі проста не ўмее падвышаць дабрабыт грамадзян і арганізаваць нармальны вытворчы працэс ды збыт створанай прадукцыі. Зрэшты, гэтага не ўмелі ўсе ўрады апошнім часам. І не будзем казаць, што такія лічбы пацвярджаюць тэзіс пра стагнацыю беларускай планава-адміністрацыйнай мадэлі эканомікі, якую не спішаш на «каронакрызіс», — бо з «каронай» мы жывем ужо без малога год, і ўсе нармальныя краіны перабудавалі сваю структуру вытворчасці з улікам гэтага крызіснага фактару.

У кантэксце АЭС важна іншае: калі ў нас падае вытворчасць і ВУП, гэта азначае, што наша прамысловасць спажывае менш энергіі — прынамсі, так яно павінна быць. А значыць, увядзенне новых энергетычных магутнасцяў, кшталту атамнай станцыі, нам і з гэтага пункту гледжання не патрэбнае. Бо мы проста захлынемся ў электрычнасці, якую няма куды будзе падзець.

А нам яшчэ і крэдыт за станцыю аддаваць. Прычым, ва ўмовах, калі краіна, і так не асабліва бліскучая наконт інвестыцыйнага клімату, увогуле стала «таксічнай» для замежнага бізнесу.

Балгарскі ўладальнік размешчанай у Лагойску кампаніі «Лекфарм» (Rompharm Company) мае намер прадаць фармацэўтычную вытворчасць у Беларусі. Працэс знаходзіцца ў пачатковай стадыі, Raiffeisen Bank абраны ў якасці кансультанта, паведаміў 19 студзеня тэлеграм-канал «Эканоміка». Продажы «Лекфарма» ў 2019 годзе склалі 70,9 мільёна долараў пры экспарце ў 21 працэнт.

Уявіце, наколькі «таксічнай» для бізнесу павінна быць краіна, каб уладальнік фірмы па выпуску лекаў у час пандэміі — калі лекі патрэбныя, як ніколі, — прадаваў такое запатрабаванае і выгаднае прадпрыемства! Відавочна, што інвестар проста не хоча мець справу з нашымі сённяшнімі ўладамі.

ФІГУРЫ ТЫДНЯ

## Алена Гнаўк



**63-гадовай Алене Гнаўк выставілі абвінавачванне ў межах брэсцкай «Справы карагодаў». Ёй пагражае да трох гадоў пазбаўлення волі.**

Жанчыну, якую раней неаднаразова затрымлівалі, вінавацяць у «арганізацыі і падрыхтоўцы дзеянняў, што груба парушаюць грамадскі парадак, або актыўным удзеле ў іх».

Сваёй віны Алена не прызнае, хоць і не хавае, што брала ўдзел 13 верасня ў маштабнай акцыі пратэсту ў Брэсце. Жанчына адмовілася ад адваката і плануе ў судзе абараняць сябе сама.

«Улады лічаць, што людзі перакрылі рух і нанеслі гораду вялікія страты. Я даведалася, што яны гэтыя страты ацэньваюць у 1000 рублёў, што ў гэты час стаяў грамадскі транспарт. Гэта справа шытая белымі ніткамі. Сваімі крымінальнымі справамі яны хочуць запалохаць людзей, прымусіць задумацца, ці варта выходзіць. Але яны забываюцца, што кропка незвароту ўжо пройдзеная. Я веру, што крымінальная справа не дойдзе да суда», — казала Алена ў адным з інтэрв'ю.

Алену Гнаўк часта называюць брэсцкай Нінай Багінскай. І мала хто ведае, што яна — не брэсцкая. Кожную нядзелю Алена Пятроўна сядае на электрычку і едзе на пратэст у Брэст з Пружанаў. А гэта больш за 100 кіламетраў — дзве гадзіны ў адзін бок.

У брэсцкай «Справе карагодаў» праходзяць каля 50 чалавек. Першыя суды над імі пачнуцца 20 студзеня.

## Вітольд Ашурак



**Актывіст з Бярозаўкі асуджаны на 5 гадоў калоніі. Пакуль гэта адзін з самых жорсткіх прысудаў, вынесеных па справе беларускіх пратэстаў.**

Ашурка абвінавачвалі па артыкулах 342 ч.1 (Удзел у групавых дзеяннях, што груба парушаюць грамадскі парадак) і 364 (Гвалт у дачыненні да супрацоўніка міліцыі).

Суд над актывістам з Бярозаўкі пачаўся 28 снежня ў Лідзе і праходзіў у закрытым рэжыме. Суддзя Максім Філатаў абвясціў суд закрытым, спаслаўшыся на 23 артыкул Канстытуцыі і «пагрозу дзяржаўнай бяспецы».

Суддзя Філатаў, калі выносіў рашэнне, таксама пастанавіў: «Пасведчанне БНФ — доказ злачынства — знішчыць».

Вітольда Ашурка затрымалі спачатку 9 жніўня на некалькі дзён, а потым 19 верасня, асудзілі на 30 дзён арышту за ўдзел у 8 мітынгах. 13 кастрычніка ён сустрэў за кратамі сваё 50-годдзе. 19 кастрычніка, адбыўшы арышт у лідскім ЦІП, Вітольд на волю не выйшаў, а быў затрыманы ў межах крымінальнай справы.

Паколькі Ашурку было выстаўленае абвінавачванне ў гвалце, з гэтай прычыны яго афіцыйна не прызналі палітзняволеным.

## Андрэй Аляксандраў



**Журналіст і медыяменеджар Андрэй Аляксандраў, затрыманы 12 студзеня, прызнаны праваабарончай супольнасцю вязнем сумлення.**

Разам з ім была затрыманая яго дзяўчына Ірына Злобіна, яна таксама займела гэты статус.

Першапачаткова думалася, што Аляксандраў затрыманы ў сувязі з яго працай у незалежных медыя, сілавікі нават правяліператрус у інфармацыйнай кампаніі БелаПАН. Аднак 15 студзеня намеснік міністра МУС заявіў, што Аляксандраў і Злобіна затрыманыя «па падазрэнні ў фінансаванні пратэставай дзейнасці». Нібыта Аляксандраў і Злобіна дапамагалі людзям з аплатай штрафаў і кампенсацыяй сродкаў на ўтрыманне ў ЦІП і ІЧУ. Паводле МУС, Аляксандраў з 22 жніўня па 9 лістапада аплаціў 250 штрафаў.

Праваабаронцы кажуць, што збор добраахвотных ахвяраванняў грамадзян і дапамога ў аплаце штрафаў асобам, якія былі прыцягнутыя да адміністрацыйнай адказнасці толькі за факт удзелу ў мірных сходах і рэалізацыю гарантаваных Канстытуцыяй Беларусі і міжнароднымі нормамі права ў галіне свабоды мірных сходаў і выказвання меркавання, не мае нічога агульнага з фінансаваннем супрацьпраўнай дзейнасці і, адпаведна, не з'яўляецца злачынствам. У дадзеным кантэксце дзейнасць Аляксандрава і Злобінай з'яўляецца, па-сутнасці, праваабарончай. А таму яны лічаць пераслед Аляксандрава і Злобінай палітычна матываваным, а іх саміх — палітычнымі зняволенымі.

Азбука паліталогіі

# Чаму дыялогу не было, няма і не будзе



Сяргей НІКАЛЮК

**Кажуць, у спрэчцы нараджаецца ісціна. Магчыма... Адкуль няўпэўненасць? Яна ад жыцця. Хто і калі апошні раз быў сведкам спрэчкі (дэбатаў, дыскусіі ці нечага падобнага) у СМІ паміж палітычнымі апанентамі?**

Мы маем дзве інфармацыйныя рэальнасці, якія практычна ніяк не сутыкаюцца. У адной рэальнасці Беларусь прэзентуюць як донара еўрапейскай стабільнасці, якой зайздросцяць блізкія і далёкія суседзі. У іншай — адзіны палітык у краіне (АП) не можа расслабіцца нават у выходныя. Пра гэта ён прызнаўся ў інтэрв'ю расійскай журналістцы Наілі Аскер-задэ: «Ну, ты ж ведаеш. У нас пратэстуны хадзілі па вуліцах па выходных, таму і выходных не было, калі ўжо так адкрыта казаць».

### Вавёрка, якая скапыцілася

Калі няма спрэчак — адпаведна, няма і ісціны. У выніку краіна ў геаграфічным цэнтры Еўропы ўсё больш пачынае нагадваць «Востраў няўдач», дзе ў жыхароў перыядычна ўзнікалі праблемы з адловам кракадзілаў і зборам какосаў (з ростам ВУП і сярэдняй зарплаты ў доларавым эквіваленце).

Адсутнасць спрэчак шчодра кампенсуецца ў афіцыйнай інфармацыйнай рэальнасці размовамі пра агульнанацыянальны дыялог, які вядзецца на так званых «дыялогавых пляцоўках». Па-за межамі ж такіх пляцовак, як паказвае практыка, дыялог паміж прыхільнікамі і апанентамі ўлады прыняў форму допыту.

Пляцоўкі для такога кшталту дыялогаў, як правіла, арганізуюцца ў СІЗА. Вось як свой удзел у дыялогу апісаў АП: «Я ўбачыў людзей (ну, вы ж мяне ў Расіі да гэтага часу падштурхоўваеце — давайце з апазіцыяй, асабліва ваша ліберальнае крыло). Ну вось я і пагаварыў. Я ўбачыў людзей, якія хацелі быць ва ўладзе, імкнуліся прыйсці да ўлады. Я іх выслухаў. Я зразумеў, якая была б Беларусь, калі б яны прыйшлі да ўлады. Ну і многае-многае іншае. Я тым самым прадэманстраваў, што мы можам весці дыялог з кім заўгодна, калі гэтага хтосьці хоча».

Крыху статыстыкі. Паводле звестак праваабаронцаў, колькасць затрыманняў удзельнікаў пратэстаў перавысіла 30 тысяч, на палітычных апанентаў улады была заведзена амаль 1000 крымінальных спраў. Не даводзіцца сумнявацца, што кожнай крымінальнай справе папярэднічаў допыт.

Адкрыем Вікіпедыю: «Допыт — следча-судовая працэдура, у рамках якой правадзіцца атрыманне ад дапытанага вядомай яму інфармацыі, што трапляе пад вызначэнне прадмета даказвання. Допыт можа ажыццяўляцца толькі ў адпаведнасці з дзеючым заканадаўствам у рамках падатковага, крымінальнага і грамадзянскага (арбітражнага) працэсаў».

У мяне няма падстаў сумнявацца ў тым, што ўсе дыялогі «пратэстуноў» са следчымі ажыццяўляліся толькі і выключна ў поўнай адпаведнасці з законам ды толькі і выключна ў рамках. Вось і сцвярджай пасля гэтага, што ў беларускай дзяржаве не наладжана зваротная сувязь з народам! Наадварот: самая што ні ёсць прамая сувязь. З яе дапамогай на вяршыню ўладнай вертыкалі паступае інфармацыя — заўсёды свежая і ўвесь час з першых рук.

**У мяне няма падстаў сумнявацца ў тым, што ўсе дыялогі «пратэстуноў» са следчымі ажыццяўляліся толькі і выключна ў поўнай адпаведнасці з законам. Вось і сцвярджай пасля гэтага, што ў беларускай дзяржаве не наладжана зваротная сувязь з народам!**

Ох, нялёгкая гэта работа — штодня апрацоўваць такі аб'ём аператыўнай інфармацыі. Адсюль — вобраз вавёркі ў коле, няздольнай спыніцца: «Вось кола круціцца — ты бяжыш, бяжыш, бяжыш. Напэўна, пакуль, як у народзе кажуць, не скапыцішся, не павалішся».

### Артыкул 83, пункт 6

Аднак пакінем вавёрку сам-насам з яе колам і ўявім сабе на хвіліну, што дыялогавыя пляцоўкі з СІЗА перанясуць у тэлестудыі. Ці многае пры гэтым зменіцца? Сумняваюся. Змены, калі і здарацца, то зусім не ў збліжэнні пазіцый удзельнікаў дыскусій.

Згадаю словы палітолага Дзмітрыя Някрасава: «Досвед паказвае, што абмен процілеглымі пунктамі гледжання, як правіла, не вядзе да выпрацоўкі кансенсусу, а толькі да палярызацыі меркаванняў. Чальцы групы з першапачаткова нязначнымі разыходжаннямі ў ацэнцы пэўнага пытання пасля працяглай спрэчкі мяняюць сваё меркаванне на больш радыкальнае — і пасля абмеркавання разыходзяцца ў поглядах значна мацней, чым да яго пачатку. У рамках гэтай мадэлі — чым больш жорсткія аргументы процілеглага боку, тым мацней ты ўмацоўваешся ў сваім першапачатковым пункце гледжання».

Для таго, каб у спрэчцы нарадзілася ісціна, мэтай абмеркавання павінен стаць... пошук ісціны. Але сярод родных бяроз і асін тыя, хто спрачаецца, як правіла, занятыя доказам сваёй праваты. Ісціну яны не шукаюць. Яна ім вядомая яшчэ да пачатку спрэчкі. Таму ўсю сваю энергію накіроўваюць на абвяржэнне аргументаў апанентаў. Тут не да выпрацоўкі кансенсусу. Як бы ад словаў да рукапрыкладства не перайсці.

Але гэта яшчэ палова бяды. Збліжэнне пазіцый у працэсе спрэчкі магчыма толькі пры ўмове знаходжання пункту адліку, з якога пачынаецца разыходжанне. Для палітычных спрэчак у Беларусі такім пунктам з'яўляецца стаўленне да рэферэндуму 1996 года.

Прыгадаем хлопцаў у цывільным, якія выкінулі старшыню ЦВК Віктара Ганчара з ягонага кабінета. Чый загад яны выконвалі? Наколькі гэты загад адпавядаў дзейнай на той момант Канстытуцыі?

Адкрываем тэкст Канстытуцыі. У артыкуле 83 «Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь», які апісвае паўнамоцтвы вышэйшага прадстаўнічага і адзінага заканадаўчага органа дзяржаўнай улады Рэспублікі Беларусь, знаходзім пункт 6: «утварае Цэнтральную камісію па выбарах і правядзенні рэспубліканскіх рэферэндумаў».

Здавалася б, якія тут магчымыя розначытанні? Тым не менш, вынікі рэферэндуму ЦВК падводзіў пад кіраўніцтвам Лідзіі Ярмошынай, а не Віктара Ганчара.

### Такая вось карціна свету

Сказаўшы А, варта гаварыць і Б. Калі прызнаць вынікі рэферэндуму законнымі, не варта здзіўляцца, што «ў 2020-м нам фактычна абвясцілі вайну». Такая афіцыйная ацэнка. Нічога дзіўнага, нічога асабістага і нічога арыгінальнага яна не ўтрымлівае — ідэалагема ворага старая як свет.

Прыводжу фрагмент з кнігі трох расійскіх аўтараў: «Калі існуе вайсковая пагроза — рэальная ці імітаваная, але якая адчуваецца як рэальная, калі людзі ўспрымаюць краіну як "крэпасць у аблозе", а грамадства атамізаванае і пазбаўленае самаарганізацыі, тады першая асоба легітымізуецца як вайсковы правадыр, здольны забяспечыць перамогу, і як выратавальнік, ад якога залежыць выжыванне ўсіх і кожнага».

З сакавіка 2003 года лепшыя дзяржаўныя розумы спрабавалі знайсці стрыжнявую ідэю для дзяржаўнай ідэалогіі. Што толькі ні прапаноўвалася: ад патрыятызму да прэтэнзіі Беларусі на ролю донара еўрапейскай стабільнасці, якая ініцыюе правядзенне «Хельсінкі-2». Але 2020 год усё расставіў на свае месцы. Ён паказаў, што мадэль «імітацыйнай дэмакратыі», мадэль «электаральнага аўтарытарызму» (каму як больш падабацца) — не гумавая.

У любой самабытнасці існуе свая мяжа, за якой у тых, хто хоча гуляць у агульнай пясочніцы, пачынаюць фарміравацца праблемы. Перафразую 16-га прэзідэнта ЗША Аўраама Лінкальна: «Можна падманваць частку заходніх партнёраў увесь час, і ўсіх — пэўны час, але нельга падманваць усіх заходніх партнёраў увесь час».

Няздольнасць упісацца ў сучаснасць патрабуе ідэалагічнага абгрунтавання. Але няма такіх палітычных практык, для якіх не знайшлося б спецыялістаў-інтэлектуалаў, здольных іх апраўдаць. Чаму супраць нас настроіліся? Таму што беларуская дзяржава, «нягледзячы на сціплае месца на карце свету, можа дазволіць сабе праводзіць незалежную знешнюю і ўнутраную палітыку. Менавіта ў гэтым прычына. Калі б мы былі слабымі, з намі б разабраліся без гэтых падзей і без вайны».

Справа не ў нас, кажуць яны. Свет так уладкаваны, і так ён быў уладкаваны заўсёды. Прыгадаем байку Івана Крылова «Воўк і ягня». У XXI стагоддзі нічога не змянілася. Любая краіна, якая адважылася на правядзенне незалежнай знешняй і ўнутранай палітыкі, аказваецца косткай у горле для сваіх суседзяў.

* * *

Такая вось карціна свету. Яна ўсё яшчэ актуальная для мільёнаў беларусаў. Шляхам дыялогу яе не змяніць. Які тады сэнс абмяркоўваць вынікі «выбараў» з тымі, хто верыць у законнасць рэферэндуму 1996 года? У іх сістэме каштоўнасцяў закон ніякай каштоўнасці не ўяўляе. Юрыдычныя фармальнасці, выкананне працэдуры і іншыя дурасці — толькі перашкода на шляху да мэты, якую вызначыў правадыр.



# «Крымінальны» 2020-ты

## Як і за што пратэстоўцы атрымлівалі тэрміны зняволення

**У мінулым пратэсным годзе ў гісторыі суверэннай Беларусі быў пастаўлены рэкорд па распачатых крымінальных справах, наўпрост ці ўскосна звязаных з перадвыбарчай кампаніяй і яе вынікамі. З дапамогай даных пазбаўленага рэгістрацыі праваабарончага цэнтра «Вясна» TUT.BY сабраў судовую статыстыку, а таксама вырашыў прыгадаць найбольш прыкметныя прысуды па некаторых крымінальных артыкулах.**

На момант падрыхтоўкі матэрыялу база даных «Вясны» ўтрымлівала інфармацыю пра амаль 1000 фігурантаў крымінальных спраў. Для 619 з іх дакладна былі вядомыя артыкулы Крымінальнага кодэкса. Самыя распаўсюджаныя — артыкул 293 «Масавыя беспарадкі», па ім праходзяць 184 фігуранты; артыкул 342 «Арганізацыя або ўдзел у дзеяннях, якія груба парушаюць грамадскі парадак», — 178 фігурантаў; і артыкул 364 «Гвалт альбо пагроза прымянення гвалту ў дачыненні да супрацоўніка органаў унутраных спраў» — 91 фігурант. Пры гэтым 35 чалавек прыцягнулі адразу па некалькіх артыкулах. Самая распаўсюджаная камбінацыя: артыкулы 342 і 364 — па такім спалучэнні праходзяць 16 чалавек.

89 асобам ужо вынесеныя прысуды. Суддзі не заўсёды каралі пазбаўленнем або абмежаваннем волі: у некаторых вердыктах прысутнічаюць шматтысячныя штрафы. У сярэднім летась у калонію адпраўлялі на тры гады, на «хімію» — на два.

### Самы вялікі тэрмін — 7 гадоў калоніі строгага рэжыму

Сцвярджалася, што 47-гадовы Уладзімір Гарох планаваў масавыя беспарадкі ў родным Навагрудку і суседніх Карэлічах. Паводле версіі следства, для гэтага ён з ліпеня па жнівень сустракаўся з мясцовымі жыхарамі, заклікаў іх да актыўнага супраціву ўладам пасля прэзідэнцкіх выбараў. Мужчына прапаноўваў супрацьстаяць сілавікам «з дапамогай арматуры, тэлескапічных дубінак, казаў пра магчымасць закідаць "кактэйлямі Молатава" будынак мясцовай міліцыі, перакрыць спілаванымі дрэвамі дарогу паміж Карэлічамі і Навагрудкам, а таксама разбіць на Замкавай гары ў Навагрудку намётавы гарадок».

На сустрэчах з Гарохам кожны раз было ўсяго ад двух да пяці чалавек. Сведкі на судзе казалі, што ці не ўспрымалі словы мужчыны сур'ёзна, ці думалі, што ён з'яўляецца супрацоўнікам праваахоўных органаў, а гэта своеасаблівая праверка. Гарох сваю віну не прызнаў, заявіўшы, што збіраў мясцовую каманду падтрымкі кандыдата Святланы Ціханоўскай, а пра беспарадкі казаў для таго, каб праверыць суразмоўцаў на адэкватнасць.

Нічога з таго, пра што казаў Гарох, не было зроблена — 7 жніўня пра гэтыя сустрэчы стала вядома праваахоўнікам. Са слоў самога мужчыны, убачыўшы міліцэйскую машыну каля дома, ён уцёк у лес і затым хаваўся ў Лідскім раёне, пакуль не быў затрыманы 18 жніўня. За гэты час Гарох паспеў публічна абразіць Лукашэнку ў адным з вайбер-чатаў. Сам ён патлумачыў такія паводзіны тым, што быў "не ў сабе" з-за затрымання пасля выбараў яго дваіх дзяцей-медыкаў, якія аказвалі дапамогу пацярпелым. Пры гэтым, паводле яго словаў, яго сын быў моцна збіты.

Яшчэ адной гучнай справай, звязанай з палітыкай, сталі два паралельныя працэсы з нагоды «цынічных» надпісаў на стыхійным народным мемарыяле каля месца гібелі Аляксандра Тарайкоўскага ў Мінску. Усяго па іх праходзілі пяць чалавек, усе яны пасля затрымання знаходзіліся пад вартай, а двое ў выніку атрымалі рэальныя тэрміны.

Усе фігуранты абвінавачваліся ў нанясенні на тратуар каля метро «Пушкінская» надпісаў «Не забудзем» 9 верасня. Папярэдне шкода была ацэненая ў каласальныя сумы: 7,5 тысячы рублёў і больш за 10 тысяч рублёў. Аднак на судзе высветлілася, што рэальныя выдаткі на выдаленне надпісаў склалі 211 рублёў 20 капеек і 255 рублёў 99 капеек. Адвакаты звярнулі ўвагу, што пры такім памеры шкоды ставіцца ў віну іх падабаронным 218-ы артыкул нельга, таму далей усе фігуранты праходзілі толькі па артыкуле за хуліганства.

Прысуды па двух судах былі вынесеныя 8 снежня: Марыя Бабовіч атрымала паўтара года «хатняй хіміі», Максім Паўлюшчык — два гады калоніі агульнага рэжыму; Дзяніс Граханаў і Ігар Самусенка — па паўтара года «хіміі». Уладзіслаў Гуліс, які меў непагашаную судзімасць па «наркатычным» артыкуле і за пару месяцаў да інцыдэнту выйшаў па амністыі, быў прысуджаны да двух гадоў калоніі строгага рэжыму.

Прызначаны 30-гадоваму гамяльчаніну Сяргею Верашчагіну прысуд — пяць гадоў калоніі агульнага рэжыму — уваходзіць у топ самых жорсткіх, вынесеных у мінулым годзе. Прычым было пазначана, што мужчына прычыніў пацярпеламу міліцыянту «цялесныя пашкоджанні, якія не пацягнулі за сабой кароткачасовае расстройства здароўя».



Фота Яны Трусіла

Дом, дзе жыве Верашчагін, знаходзіцца насупраць цырка, побач з якім у жніўні збіраліся пратэстоўцы. Абвінавачванне сцвярджала, што ўвечары 12 жніўня п'яны падсудны крычаў з вакна пагрозы і абразы ў адрас міліцыянтаў, якія ў гэты момант размаўлялі з мінакамі. Затым ён пачаў кідаць у іх пластыкавыя і шкляныя бутэлькі. Маці, што адчыніла дзверы чацвярым сілавікам, папрасіла пра дапамогу: сын разбушаваўся, яго адзенне было ў крыві. Міліцыянты заявілі, што ён паводзіў сябе агрэсіўна, так што даводзілася яго скруціць, пры гэтым мужчына біўся галавой аб сцены і падлогу. Пакуль зафіксаванага кайданкамі Верашчагіна спускалі ўніз, на лесвічнай пляцоўцы той, нібыта, наўмысна ўдарыў аднаго з міліцыянтаў нагой у вока.

На папярэднім следстве маці абвінавачанага казала, што ён быў візуальна ў стане ап'янення, але на судзе заявіла, што не можа гэтага сцвярджаць. Яна таксама адмаўляла, што прасіла міліцыянтаў пра дапамогу і што ў яе сына былі нейкія траўмы да прыходу праваахоўнікаў.

Па словах Верашчагіна, ён не кідаў у міліцыянтаў бутэлькі, а звярнуўся да іх з акна з-за іх жорсткасці ў адносінах да ўдзельнікаў акцыі, сярод якіх былі дзяўчаты. Не прызнаў ён і тое, што ўдарыў міліцыянта.

**У новай Беларусі палітзняволеныя будуць рэабілітаваныя і атрымаюць кампенсацыі. Але кампенсацыі заплаціць не дзяржава, а тыя, хто затрымліваў, абвінавачваў і судзіў. Так было ва ўсіх краінах, якія пазбавіліся свайго рэжыму**

Яго адвакат сцвярджала, што яе падабаронны наогул не мог нанесці ўдар міліцыянту так і пры такіх абставінах, як гэта апісана: яго рост каля двух метраў, а лесвічная пляцоўка мае памеры 1 м на 80 см, так што ён маглі несці толькі ў сагнутым стане.

Абаронца здолела трапіць да Верашчагіна толькі на трэці дзень пасля затрымання: ён быў моцна збіты, адвакат запатрабавала яго неадкладнай шпіталізацыі. Абследаванне паказала наяўнасць чэрапна-мазгавой траўмы, удару галаўнога мозгу і іншых сур'ёзных пашкоджанняў — адвакат заявіла, што ён атрымаў не менш за сотню ўдараў. Па словах Верашчагіна, білі яго не толькі пры затрыманні, але і ў РАУС: «Білі, скакалі па галаве, абражалі і смяяліся», — распавёў мужчына.

Ён напісаў заяву ў Следчы камітэт па факце збіцця, аднак за некалькі дзён да пачатку працэсу высветлілася, што гэты матэрыял вылучаны ў асобную вытворчасць. Акрамя вынясення рашэння аб пазбаўленні гамельчука свабоды, суд таксама абавязаў яго кампенсаваць маральныя пакуты пацярпелага міліцыянта, ацаніўшы іх у 1000 рублёў.

### Прысуды жанчынам: «хімія», арышт і рэальныя тэрміны

Сярод тых, хто трапілі пад крымінальны пераслед, 549 мужчын і 104 жанчыны. Пол яшчэ 12 чалавек не высветлены.

20-гадовая Марыя Сафонава ў ноч на 7 кастрычніка намалявала БЧБ-сцяг і нанесла надпіс «Жыве Беларусь» на асфальце ў адным з мінскіх двароў, адкуль ёй з сябрам да прыезду міліцыі не далі сысці мясцовыя жыхары. У пастанове следчага надпіс пазначаецца як «цынічны» і «абразлівы для пачуццяў грамадзян»: абароне з прыцягненнем экспертаў НАН Беларусі давялося даказваць у судзе, што словы такімі не з'яўляюцца. Суд прызначыў у выглядзе пакарання для дзяўчыны двухмесячны арышт.

Фармацэўта з Гродна, 55-гадовую Марыну Палікарпаву судзілі за падзеі, якія адбыліся 9 жніўня. Паводле версіі абвінавачвання, яна брала ўдзел у пратэснай акцыі, а калі яе затрымалі, абуралася, хапала супрацоўнікаў міліцыі за вопратку. Спрабуючы пакінуць мікрааўтобус сілавікоў, яна нанесла траўмы двум супрацоўнікам АМАПу: адну ўдарыла па твары, іншую ўкусіла за руку. У пратаколе пазначана, што жанчына была з сяброўкай і ведала пра акцыю пратэсту, але пайшла паглядзець на яе з цікаўнасці.

Сама Палікарпава сцвярджае, што ні ў якіх пратэстах удзелу не прымала, спецыяльна сышла на некаторую адлегласць ад эпіцэнтра падзей і чакала свайго брата, з якім павінна была вярнуцца дадому. Яна падумала, што міліцыянты ўсяго толькі правераць у яе дакументы. Паводле яе слоў, супрацоўніцы АМАПу пачалі абражаць і збіваць яе ўжо ў спецтранспарце. Жанчыны паклікалі на дапамогу нейкага мужчыну, затым Марына адчула ўдар у патыліцу, на яе надзелі кайданкі. Пазней яна зняла пабоі (было зафіксавана 51 цялеснае пашкоджанне) і звярнулася з заявай у Следчы камітэт. Адвакат звярнуў увагу суда на нестыкоўкі ў апісанні паводзін падабароннай і спадарожных абставінаў, якія супрацоўніцы АМАПу не змаглі растлумачыць.

Жанчыну прызналі вінаватай і прызначылі пакаранне ў выглядзе двух гадоў «хатняй хіміі». Таксама яна павінна выплаціць кампенсацыю пацярпелым супрацоўніцам — па 1,5 тысячы рублёў кожнай (прасілі па 5 тысяч).

Самы жорсткі «жаночы» прысуд — за драпіну і падраную балаклаву. 51-гадовая Наталля Хершэ разам з непаўналетняй дачкой больш за 12 гадоў пражывае ў Швейцарыі і прыязджала на радзіму прыкладна раз на год. Інцыдэнт адбыўся 19 верасня ў Мінску, калі ў раёне вуліцы Якуба Коласа рухаліся ўдзельніцы жаночага маршу. Адной з затрыманых стала і Хершэ. Абвінавачванне сцвярджала, што жанчына супраціўлялася праваахоўнікам, а ў нейкі момант сарвала з аднаго з супрацоўнікаў у форме без апазнавальных знакаў балаклаву, пры гэтым пакінуўшы яму на твары ранку.

Міліцыянт распавёў, што на відэа затрымання Хершэ яго апазналі і сталі пагражаць яму і яго сям'і. З-за мераў сакрэтнасці для забеспячэння бяспекі пацярпелага фота яго траўмы, якія зрабіў судмедэксперт, не былі далучаныя да справы. Відэазапіс інцыдэнту з міліцэйскай камеры нібыта не захаваўся, хаця адвакат настойвала, што рабіла адпаведны запыт аб яе выдачы.

Хершэ прызначылі пакаранне ў выглядзе 2,5 года пазбаўлення волі ў калоніі агульнага рэжыму, а таксама абавязалі выплаціць маральную кампенсацыю міліцыянту ў памеры тысячы рублёў. БЧБ-сцяг, які канфіскавалі ў Наталлі, згодна з рашэннем суда, павінны былі знішчыць.

У самой Швейцарыі справа не засталася без увагі: мясцовая прэса яе актыўна асвятляла, таксама ёй заняліся дэпутаты парламента і, вядома, пасольства краіны ў Беларусі.

Святлана Ціханоўская, каментуючы распачаты крымінальны працэс над аўтарам YouTube-канала «Слуцк для жыцця» Уладзімірам Няронскім, паабяцала, што ў новай Беларусі палітзняволеныя будуць рэабілітаваныя і атрымаюць кампенсацыі. Але кампенсацыі заплаціць не дзяржава, а тыя, хто затрымліваў, абвінавачваў і судзіў. «Так было ва ўсіх краінах, якія пазбавіліся свайго злачыннага рэжыму», — зазначыла яна.

**Пераклад НЧ**

# «Пакуль мяне дапытвалі, побач збівалі

Дзіяна СЕРАДЗЮК

**Паліна Ляднёва, танклявая светлая дзяўчына, толькі гэтым летам сустрэла сваё 18-годдзе. Але за некалькі поствыбарчых месяцаў яна пасталела так, як не пасталела б за цэлы год. Яна прайшла праз затрыманні, штрафы, суткі і допыт у КДБ, але гэтыя выпрабаванні толькі павялічылі яе натхненне і любоў да роднай краіны.**



Фота Яны Трусіла

### «Зразумела, што не магу прапусціць выбары ў Беларусі»

Бацькі Паліны — мастакі, і сама яна таксама з дзяцінства малюе. Але вырашыла паступаць у ГІЦІС на рэжысуру. У Маскве Паліна правучылася год, а потым пачаўся каранцін, і дзяўчына, прыехаўшы дадому, вырашыла больш не вяртацца: зразумела, што рэжысура — гэта пакуль не яе.

— Але выбары таксама паўплывалі. Я прымала рашэнне пра сыход летам. І калі пасадзілі Бабарыку, я выйшла на свой першы палітычны пікет і зразумела, што не магу прапусціць выбары ў Беларусі. А вучоба ў нас пачыналася 21 ліпеня.

Паліна прызнаецца: падзеі, якія адбываліся да выбараў, яна ўспрымала хутчэй як прыгоду. Але трыгерам для яе стаў неапраўданы гвалт, які здарыўся пасля.

— Дакладней, не тое, што ён цяпер здарыўся, а тое, што ён быў усе гэтыя 26 гадоў, а я пра гэта не ведала. Гэта было аднačасова і здзіўленне, і страх, што такое можа і далей працягвацца.

І дзяўчына вырашыла выходзіць, каб падтрымліваць і ўласны эмацыйны стан, і людзей навокал. У першыя паслявыбарчыя дні, гаворыць Паліна, страху не было, а быў моцны стрэс. Страх з'явіўся, калі ў краіне аднавіўся інтэрнэт, і яна пабачыла фотаздымкі з пратэстаў.

### Сказалі, што «абдзяўбаная», і закінулі ў бус

Першы раз Паліну затрымалі 11 жніўня, і гэтае затрыманне было для яе самым страшным.

— Я выйшла з дому і пайшла шукаць, дзе збіраюцца людзі. Дайшла да Камароўкі і сустрэла там групу з 5 чалавек. Мы пайшлі па вуліцах, і ў выніку нас сабралася чалавек 30. Дайшлі да Рыгі, там было чалавек 300–400. Было ўжо позна, я зразумела, што нас мала, і трэба вяртацца. І калі я вырашыла ісці, увесь натоўп пайшоў у напрамку майго дома. У гэты час мне патэлефанаваў тата, які ездзіў у ваколіцах на машыне і сачыў за тым, што адбываецца, і сказаў, каб мы былі асцярожнымі, бо на нас палююць два бусы.

Адарваўшыся ад натоўпу, Паліна чакала на святлафоры, калі загарыцца зялёны, каб перайсці дарогу, і патэлефанавала бацьку, каб сказаць, што ўжо ідзе дадому. У гэты момант праехала спачатку машына ДАІ, а за ёй… так, два бусы.

**Момант нашага з сястрой затрымання трапіў на шматлікія фатаграфіі. Многія настаўнікі з гімназіі-каледжа мастацтваў, дзе я вучылася, пачалі тэлефанаваць майму тату і запытвацца, як дапамагчы. Суседка проста прынесла грошы на штраф**

— Гэта здарылася за секунду: я не паспела адключыць тэлефон, ззаду падбягаюць, хапаюць, забіраюць тэлефон, разварочваюць мяне і глядзяць на мае зрэнкі, кажуць, што я «абдзяўбаная», закідваюць у адзін бус, потым адразу ў другі, ставяць на калені, паклаўшы рукі на сядзенне, — узгадвае Паліна.

У яе тэлефоне амапаўцы знайшлі некалькі фатаграфій з 9 жніўня, і гэта стала нагодай для псіхалагічных прыніжэнняў.

— Мне пагражалі дзесяццю гадамі, казалі, што я загубіла сваю маладосць. Гэта было маё першае затрыманне, я не ведала, куды мяне вязуць, што будзе, таму было вельмі страшна. А яшчэ было страшна ад таго, што я не паспела папярэдзіць бацькоў.

Паліну прывезлі на Стэлу — у тую ноч туды прывозілі ўсіх затрыманых і перагружалі ў міліцэйскія «бобікі». Наўпрост на вуліцы затрыманых даглядалі, вытрасалі заплечнікі. Затым дзяўчыну павезлі ў Фрунзенскае РУУС.

— Нас не чапалі, але па дарозе падбіралі мужчын і вельмі моцна іх збівалі — да такой ступені, што яны не маглі самі заходзіць у гэтыя «стаканы» ў «бобіках». Потым затрымалі нейкага бацюшку, які ехаў на ровары з трэніроўкі. Яго збілі, крыху правезлі і выкінулі.

### Нехта ў спартыўным адзенні ўдарыў нагой па ілбе

У РУУСе затрыманых прывялі ў спартзалу. Калі туды даставілі Паліну (гэта было блізу 12 ночы), там ужо знаходзілася каля сотні чалавек. Потым прывозілі новых людзей. Хлопцы і мужчыны ляжалі ўсе збітыя, у кагосьці было парванае адзенне. Але некалькі чалавек былі цэлыя і стаялі — гэта Паліну здзівіла.

Яе разам з іншымі паставілі да сцяны і надзелі кайданкі. Потым дапытвалі, здымалі на відэа. Людзі, якія гэта рабілі, былі без формы, але Паліна мяркуе, што гэта супрацоўнікі ГУБАЗІКа.

— Яны былі самымі жорсткімі. АМАП прыводзіў, міліцыянты проста складалі пратаколы, а гэтыя білі. Мяне не білі, і ўвогуле ставіліся нармальна, толькі запытваліся, чаму выходзіш, колькі табе заплацілі, хто плаціў?..

Пасля допыту Паліну паставілі на калені, абапершыся лбом у падлогу і завёўшы рукі назад. Так давялося стаяць досыць доўга.

— Калі вялі на вопіс рэчаў, мяне вельмі груба ўзялі, адшпілілі ад адной рукі кайданкі. Трэба было пры ўсіх зняць і выцягнуць з-пад адзення станік. Вопіс складала жанчына, якая, з аднаго боку, вельмі моцна на мяне псіхалагічна ціснула, спрабавала выхоўваць, але ў той жа час недзе і дапамагала. У мяне быў белы бранзалет і значок з «Пагоняй», і яна сказала: «Лепш здымі, давай я выкіну, каб не было наступстваў».

Быў адзін малады міліцыянт, які спрабаваў да мяне прыставаць — вельмі недвухсэнсоўна мяне абдымаў, дакранаўся, калі я стаяла наўпрост на допыце ў кайданках. Усё гэта было навідавоку. І што мяне яшчэ ўразіла: пакуль мяне спакойна дапытвалі, побач збівалі людзей, і нікога гэта не бянтэжыла, гэта было нормай — і гэта страшна. Таго міліцыянта нядаўна задэанонілі, я яго пазнала. Пазней ён дапамагаў дзяўчатам: здымаў кайданкі, даваў папіць.

На нейкі час пра Паліну забыліся, а потым да яе падышоў чалавек без формы і загадаў станавіцца на калені галавой у падлогу пасярод залы. Праз нейкі час пасля гэтага да яе падышоў яшчэ адзін супрацоўнік у спартыўным адзенні, спыніўся ў 10 сантыметрах ад яе галавы, зрабіў крок і ўдарыў яе нагой па ілбе.

— Болю я ў той момант не адчувала, напэўна, у стрэсе болевы парог адключаецца. Але мне стала вельмі крыўдна, я падумала: чым яго так жанчыны пакрыўдзілі?

Потым да Паліны прыйшоў «добры-злы паліцэйскі», паставіў каля яе, што ляжала галавой у падлогу, крэсла, сеў на яго і стаў запытвацца, чым ёй дапамагчы. Потым ён сказаў, што, калі атрымаецца, дзяўчына сёння пойдзе дамоў, і адвёў яе да сцяны.

Паліна ўласнымі вачыма бачыла пратакол, складзены з яе словаў: што яе затрымалі каля парка Дружбы народаў, яна ішла дадому адна. Але пазней ёй далі на подпіс іншы пратакол. Яго не дазвалялі прачытаць, але Паліна паспела заўважыць, што, паводле яго, яе затрымалі на Каменнай Горцы на мітынгу праз гадзіну пасля рэальнага затрымання, і нібыта яна выкрыквала лозунгі «Свабоду Статкевічу!», «Свабоду Севярынцу!».

У той дзень (а тым часам ноч прайшла) Паліна аказалася адзінай, каго адпусцілі дадому. Суд над ёй адбыўся 28 жніўня. Прычым аб працэсе дзяўчына даведалася за гадзіну да яго, калі прыйшло СМС. Ніякім іншым чынам Паліну ў суд не выклікалі. Нягледзячы на ўсе парушэнні, ёй прысудзілі 20 базавых штрафу.

### «Суседка прынесла грошы на штраф»

8 верасня, падчас жаночага маршу ў падтрымку Марыі Калеснікавай, сеціва абляцелі здымкі жорсткіх затрыманняў жанчын, якія стаялі ў счэпцы на Машэрава. Сярод іх была і Паліна з малодшай сястрой.

— Спачатку нам сказалі сыходзіць, што забяруць толькі хлопцаў. Але іх было чалавек 10 усяго, таму немагчыма было сысці. І ў пэўны момант пачалі пачкамі загружаць усіх у аўтазакі.

Адтуль Паліна змагла патэлефанаваць бацьку родным і нават даслаць бацьку кантакты адваката.

У Першамайскім РУУСе, куды прывезлі затрыманых, сітуацыя была зусім іншай, чым у Фрунзенскім.

Пратэстоўцы пераэнаёміліся, сядзелі размаўлялі паміж сабой. Потым сястру Паліны адпусцілі, бо яна непаўнагадовая, а ўсіх астатніх пагрузілі ў аўтобус і павезлі на Акрэсціна. Там у тую ж раніцу адбыліся суды. Паліне далі 15 базавых.

— Цікава, што момант нашага з сястрой затрымання трапіў на відэа «Анлайнера» і на шматлікія фатаграфіі. І многія настаўнікі з гімназіі-каледжа мастацтваў, дзе я вучылася, пачалі тэлефанаваць майму тату і запытвацца, як дапамагчы. На наступны дзень суседка проста прынесла грошы на штраф, — дзеліцца Паліна.

Пасля другога затрымання Паліна стала больш асцярожнай.

### «Паліна, усё добра, ты не перажывай»

13 кастрычніка дзяўчына паехала па справах у атэлье каля станцыі метро «Маладзевая». Па дарозе каля Інстытута журналістыкі БДУ ўбачыла акцыю студэнтаў, якія спявалі песні. Пастаяла з імі пару хвілін і пайшла далей.



**Паліну з сястрой затрымліваюць 8 верасня.** Фота Onliner.by

# людзей, і нікога гэта не бянтэжыла»

— Падыходжу да атэлье, і тут на мяне ззаду накідваюцца два агромністыя мужыкі. Перада мной спыняецца белая ці серабрыстая машына; трэці адчыняе дзверы, чацвёрты — за рулём. Мяне запіхваюць у машыну, гаворачы: «Паліна, усё добра, ты не перажывай». Адразу адбіраюць тэлефон, надзяваюць на галаву мех і вязуць кудысьці.

Паліна вельмі напалохалася. Яна ўзгадвае, што па дарозе яе спрабавалі забалбатаць, казалі, што яе зараз прывязуць паглядзець на людзей, і калі яна іх пазнае, яе адпусцяць.

Калі прыехалі, яе, з мехам на вачах, доўга вялі ўверх спачатку па лесвіцы, потым — па дывановай дарожцы. Нарэшце прывялі ў кабінет і знялі мех. У кабінеце Паліне ў вочы кінуўся дыван у выглядзе дзяржаўнага сцяга, які вісеў на сцяне.

Паступова Паліна здагадалася, што яна знаходзіцца ў КДБ. Там яе дапытвалі 5 гадзін.

— Адразу, калі зайшла, я ўбачыла на стале раздрукаваныя копіі пашпартоў: майго і маіх бацькоў.

Аказалася, Паліну вылічылі па відэа, якое 4 кастрычніка падчас нядзельнага маршу знялі ціхары.

— Я раніцай выходзіла ў машыну па друшляку, папрасіла бацькоў прывезці яго з вёскі. І выйшла, каб яго забраць. І першае пытанне было: «Навошта табе быў патрэбны друшляк?» Потым было пытанне пра фіранкі, пра нейкую суседку, і я зразумела, што за мной сачылі, і не адзін дзень. Я ўзгадала, як раніцай мяне пазнала нейкая жанчына і пайшла за мной, але я не надала гэтаму ўвагі. Потым мама ўспомніла, што за ёй сачылі на працы, і тата сказаў, што некалькі разоў у яго пільна ўглядалася нейкая жанчына.

У Паліны дапытваліся пра дваровую актыўнасць, пра тое, чаму яна выходзіць на маршы, пра бацькоў і знаёмых, а таксама не вельмі знаёмых людзей.

— Цяпер я разумею, што трэба было проста маўчаць і нічога не казаць. І я рабіла спробы, але вельмі слабыя. Але тады ў мяне, відаць, спрацавала абарончая рэакцыя — я шмат-шмат балбатала, але не пераходзіла межаў: «Так, я хаджу і буду хадзіць». Я распавяла, што я бачыла 11 жніўня, мяне прарвала, у мяне паліліся слёзы. І яны амаль замоўклі, а пасля спыталі, ці я падавала скаргу ў пракуратуру.

А потым прыйшоў ідэолаг, поўны прафесіянал і вельмі добры акцёр. Ён зразумеў, што мяне палохаць нельга, і пачаў са мной пагаджацца, але стаў ціснуць на мяне праз бацькоў і ўскладаць на мяне віну за іх лёс і лёс сястры, якую паставілі на ўлік. Спачатку я таксама вырашыла з ім гуляць. Але потым у мяне скончыліся сілы, і мне па чарзе сталі прапаноўваць то каву, то каньячку. Калі выводзілі ў прыбіральню, доўга шукалі павязку ці мяшок на галаву, але не знайшлі, таму сказалі проста апусціць галаву ўніз, бо «тут проста так хадзіць нельга». Я ішла па чырвонай дывановай дарожцы і бачыла на сценах нейкія карціны.

У КДБ склалі чарнавік пратакола на Паліну за ўдзел у маршы 4 кастрычніка. Потым яе прывезлі ў Савецкае РУУС. Калі яе там пакідалі, пажадалі ўдачы.





Турэмныя малюнкі Паліны

**Мне было адначасова вельмі брыдка і вельмі смешна. Брыдка, бо ў кантэксце маёй галавы яны — вельмі слізкія і прадажныя людзі, з якімі непрыемна знаходзіцца побач, а смешна — ад усяго таго абсурду, які адбываўся. Гэта крыху ратавала**

— Мне было адначасова вельмі брыдка і вельмі смешна. Брыдка, бо ў кантэксце маёй галавы яны — вельмі слізкія і прадажныя людзі, з якімі непрыемна знаходзіцца побач, а смешна — ад усяго таго абсурду, які адбываўся. Гэта крыху ратавала, — каментуе Паліна.

## «Пад канец нават не хацелася выходзіць з турмы»

Яе прывезлі ў РУУС першай, а потым туды сталі падвозіць затрыманых у ланцугах салідарнасці. Паліна даведалася, што ў міліцыянтаў ёсць «на пабягушках» падлеткі — хлопцы, якія бегаюць і дакладаюць, дзе што адбываецца.

Пасля Паліну павезлі ў ІЧУ на Акрэсціна. Цягам двух дзён яе не маглі асудзіць, бо, у адрозненне ад усіх, пратакол на яе быў складзены не за папярэдні дзень, а за 4 кастрычніка. Гэтыя два дні былі для яе самымі цяжкімі, бо дзяўчына ніяк не магла звязацца з бацькамі і думала, што супрацоўнікі КДБ прыехалі да іх.

— Гэтыя два дні я проста плакала. Мы сядзелі ў вельмі смярдзючай камеры, нас кепска кармілі, балела галава. Адзінае, што ратавала, — гэта Вольга Шпарага, якая ўжо адседзела там 5 сутак. Яна нас падтрымлівала.

Пасля першага суда справу Паліны адправілі на дапрацоўку, бо ў пратаколе не было ні паказанняў сведак, ні нават скрыншота з відэа. На другім судзе сведка «захварэў», але пакінуў свае паказанні ў запісцы, якую зачыталі. Яны былі цалкам спісаныя з пратакола. Гэтым разам Паліне выпісалі 11 сутак арышту. Яе бацькі пра рашэнне суда змаглі даведацца толькі праз 1,5 сутак, бо працэс не быў пазначаны ў раскладзе.

Пабыўшы яшчэ дзень на Акрэсціна, Паліну этапавалі ў Жодзіна. І там, апроч самой прыёмкі, усё было, па яе словах, «вельмі добра». У камеры было 8 дзяўчат, сярод якіх — дызайнеркі, каліграфістка, медык, адвакатка. Дзяўчаты малявалі, спявалі песні, гулялі ў розныя гульні, чыталі ўслых, размаўлялі. Паліна склала цэлы спіс таго, чым яны займаліся ў турме.

— Не было страху, а было адчуванне санаторыя, бо мы ўсё вымылі ў камеры, абжыліся. Пад канец нават не хацелася выходзіць. Бо я разумела, што па-за турмой засталіся ўсе праблемы, — гаворыць суразмоўца.

## «Мне здаецца, што ў нас будзе вельмі добрая, яркая і светлая вясна»

Першы час пасля вызвалення ў Паліны быў страх, што за ёй могуць сачыць, але паступова гэтыя перажыванні адышлі.

А неўзабаве здарылася трагедыя з Раманам Бандарэнкам, з якім Паліна пазнаёмілася літаральна за тыдзень да яго смерці. Паліна жыве недалёка ад Плошчы Перамен, і ўсе падзеі, што там адбываюцца, праходзяць на яе вачах і вельмі моцна адгукаюцца ў сэрцы. Дзяўчына распавядае, што надзвычай цяжка перажывала смерць Рамана, яна ўпершыню так блізка сутыкнулася з гэтай з'явай.

Пік перажыванняў адбыўся 15 лістапада падчас зачысткі Плошчы Перамен. Паліна зразумела, што ёй трэба з'ехаць. І з'ехала на два тыдні ў Піцер, адпачыла, а потым вярнулася ў Беларусь. Паліна не збіраецца з'язджаць з краіны, калі ёй і яе блізкім не будзе прамой пагрозы.

Дзяўчына гаворыць, што 9 жніўня стала пераломным у яе жыцці, і наступныя некалькі месяцаў шмат чаго ёй далі. Паліна зазначае, што стала менш эгаістычнай, адчула сябе часткай народа, пазнаёмілася з цудоўнымі суседзямі, наладзіла стасункі з бацькамі, зразумела свае магчымасці і сваю адказнасць. Перажыванні, якія раней здаваліся вялікімі, цяпер сталі няважнымі. Паліна прызнаецца, што часта плакала, але не ад таго, што ўсё кепска, а ад таго, якімі цудоўнымі аказаліся людзі, якіх яна сустракае. І ўсё гэта дазваляе адчуваць сябе шчаслівай.

— З аднаго боку, хочацца, каб тут усё хутчэй скончылася. З іншага — ёсць людзі, якія змагаюцца з гэтым 26 гадоў, і я іх вельмі моцна паважаю. Таму трэба далей працягваць рабіць усё, што ў маіх сілах. Мне здаецца, што ў нас будзе вельмі добрая, яркая і светлая вясна.



Фота Яны Трусіла

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### ТУРКМЕНІСТАН. Як вешаць прэзідэнта?

У Туркменістане распрацаваны новы стандарт вывешвання партрэта прэзідэнта Гурбангулы Бердымухамедава ў кабінетах кіраўнікоў усіх рангаў. Фонам для партрэта гаранта павінен служыць чырвоны дыван з дадаткам нітак з белай воўны, з адмысловым арнаментам і памерам не менш 2,20 х 1,5 метра. На сярэдзіну дывана змяшчаецца рамка з металу або гіпсу, пафарбаваныя ў залацісты колер. У яе ўстаўляецца партрэт прэзідэнта. Усім кіраўнікам у рэгіёнах краіны загадалі набыць і павесіць дываны і партрэты ў адпаведнасці з новымі патрабаваннямі. Падчас анлайн-канферэнцый кіраўнікі павінны выступаць на гэтым фоне, падкрэсліваецца ў цыркуляры.

Застаецца дадаць, што за апошнія пару гадоў у дзяржаўных установах ужо масава мянялі партрэты туркменскага лідара. Гэта адбылося з-за таго, што кіраўнік дзяржавы рэзка змяніў імідж: прыкладна са жніўня 2018 года ён пачаў з'яўляцца на публіцы з сівымі валасамі. У шэрагу рэгіёнаў бюджэтнікаў абавязалі аплаціць замену партрэтаў Бердымухамедава.

**Паводле туркменскай прэсы**

### РАСІЯ. Жырыноўскі ўсё?

Чарговыя выбары ў Дзярждуму РФ увосень гэтага года стануць апошнімі для Уладзіміра Жырыноўскага і, магчыма, у цэлым для ЛДПР. Пра гэта ў сваім тэлеграм-канале напісаў дэпутат Дзярждумы Вячаслаў Лысакоў. «У 2021-м яму (Жырыноўскаму) стукне 75. Яго фізічная форма далёка не лепшая. Залішняя вага, сардэчны ціск, рэзкія змены настрою — аж да некантраляванага гневу», — піша дэпутат.

Ён таксама ўпэўнены, што пасля 80-ці Жырыноўскі не зможа фізічна цягнуць на сабе партыю. А гэта значыць, што ліберал-дэмакраты пазбавяцца лідара, на харызме якога ўся структура, па-сутнасці, і трымаецца.

Няма сумневу, што імклівы або паступовы заняпад ЛДПР будзе вялікім выклікам для забеспячэння лаяльнасці на адрас рэжыму. Галасаванне за Жырыноўскага канalізавала пратэст маргіналаў і нацыяналістаў, якія праз адсутнасць у выбарчых спісах кандыдатаў ЛДПР могуць радыкалізавацца. Цікава, што днямі ў СМІ з'явілася інфармацыя: Крэмль пачаў асцярожна працаваць над стварэннем новай праўладнай патрыятычнай партыі.

**Паводле расійскай прэсы**

### ФРАНЦЫЯ. Апошняе табу

На думку французскага часопіса Nouvel Observateur, найбліжэйшым часам рух metoo, які змагаецца з сексуальным гвалтам, атрымае новы імпульс. Усё дзякуючы кнізе дачкі былога міністра замежных спраў Францыі Камілы Кушнер. Кніга днямі з'явілася ў мясцовых кнігарнях і называецца «Вялікая сям'я» (La Familia grande) і па-сутнасці з'яўляецца споведдзю жанчыны, якая ў юнацтве стала ахвярай сексуальнага гвалту з боку аднаго з родных братоў. Аўтарка распавядае, наколькі адмоўна той выпадак паўплываў на ўсё яе далейшае жыццё. Трагедыя Камілы, на думку Nouvel Observateur, можа выклікаць хвалю споведзяў іншых ахвяраў інцэстаў.

Увогуле, падобныя злачынствы, хаця і падпадаюць пад асобны артыкул Крымінальнага кодэкса, вельмі рэдка даходзяць да суда праз сямейную ўстаноўку, што не варта выносіць смецце з хаты. Аднак цяпер, магчыма, табу наконт інцэсту будзе зламанае. У такім разе гэта стане сапраўдным шокам — прынамсі, для французскага грамадства. Калі верыць Nouvel Observateur, паводле ананімных сацыялагічных апытанняў, кожны дзясяты француз у дзяцінстве меў праблемы з інцэстам, а сярод гвалтаўнікоў дакладна ёсць тыя, хто пасля зрабіў добрыя кар'еры ў бізнесе або ў палітыцы.

**Паводле французскай прэсы**

### КАЛУМБІЯ. Што рабіць з «какаінавымі» бегемотамі?

Навукоўцы Калумбіі заявілі пра неабходнасць неадкладна знішчыць так званых «какаінавых» бегемотаў, — афрыканскіх бегемотаў з былога заапарку наркабарона Пабла Эскабара, які быў застрэлены ў 1993 годзе. Мафіёзі загінуў, а насельнікі яго заапарка разбегліся па мясцовых лясах. Некаторыя загінулі, а вось чатыры бегемоты, якіх кантрабандай завезлі ў краіну, выжылі, нарадзілі нашчадкаў, а тыя сталі ўяўляць пагрозу мясцовай фауне. Раней гучалі ідэі перасяліць жывёл на гістарычную радзіму ці кастрыраваць самцоў. Аднак цяпер усё больш галасоў за радыкальны варыянт. Тым больш, як кажуць навукоўцы, час падціскае. Цяпер па калумбійскіх джунглях гойсаюць каля ста бегемотаў. Але да 2050-га іх колькасць можа вырасці да 1500 асобінаў, што пагражае сапраўднай катастрофай. Зрэшты, шмат хто лічыць, што забіваць жывёл, продкаў якіх сілком перавезлі ў Лацінскую Амерыку, неэтычна. Гучаць нават заклікі прымусіць сучасных наркабаронаў арганізаваць заапаркі, куды і змясціць «какаінавых бегемотаў».

**Паводле брытанскай прэсы**

# «Але быў адзін, які не страляў»

Алег НОВІКАЎ

**На 86-м годзе жыцця 8 студзеня 2021-га пайшоў з жыцця кітайскі генерал Сюй Цыньсянь. У гісторыю ён увайшоў як вышэйшы камандны афіцэр Кітайскай народна-вызвольнай арміі, які адмовіўся выканаць загад аб падаўленні паўстання на плошчы Цяньаньмэнь.**



Фота www.twitter.com

Безумоўна, учынак Сюй Цыньсяня шмат у чым нагадвае дзеянні генерала Мацвея Шапашнікава. У чэрвені 1962 года, калі ў Новачаркаску адбылися стыхійныя выступленні рабочых супраць рэзкага пагаршэння ўмоваў жыцця, Шапашнікаў адмовіўся накіраваць супраць рабочых танкі. «Не бачу перад сабой такога суперніка, якога варта было б атакаваць нашымі танкамі», — сказаў ён. Каб пазбегнуць інцыдэнтаў, Шапашнікаў таксама загадаў мотастралкам разрадзіць аўтаматы і карабіны і здаць боепрыпасы. Такая акцыя непадпарадкавання каштавала генералу кар'еры і крымінальнага пераследу «за антысавецкую прапаганду», якую закрылі выключна з-за яго франтавых заслуг.

Тое, што Сюй Цыньсянь таксама застаўся жывы пасля дэманстратыўнай адмовы страляць па студэнтах, магчыма, таксама вынік яго гераічнай біяграфіі. Калі Пекін падтрымаў Пхеньян у карэйскай вайне, Сюй, яшчэ будучы падлеткам, прыйшоў у ваенкамат у роднай правінцыі Хубэй, каб папрасіцца на фронт. Паколькі хлопец быў непаўналетнім, ваенкам паказаў яму на дзверы. Тады малады Сюй пракусіў сабе палец і напісаў заяву з просьбай прыняць у войска крывёю. Учынак уразіў камісію, і яго запісалі нававбранцам.

У войску Цыньсянь зрабіў няйдрэнную кар'еру: на пачатку 1980-х гадоў ён камандаваў браніраваным падраздзяленнем. У 1987-м Сюй Цыньсянь атрымаў пагоны генерала і быў прызначаны камандуючым 38-й арміі.

У гэтым статусе ён і сустрэў падзеі 1989 года, калі ў красавіку сталічныя студэнты распачалі на галоўнай плошчы краіны акцыі пратэсту. Як вядома, спачатку ўлады асцярожна паставіліся да выступаў. У партыйным кіраўніцтве існавала ліберальная фракцыя, якая негалосна сімпатызавала пратэстоўцам. Жаданне «ястрабаў» разагнаць «майдан» шмат у чым тармазіла мазаічная палітычная праграма пратэсту. У той час, як студэнты і інтэлектуалы патрабавалі запуску рэформаў, рабочыя лічылі, што ліберальныя рэформы Дэн Сяапіна ў эканоміцы і так зайшлі занадта далёка, прынеслі інфляцыю і беспрацоўе. Таму, на іх думку, трэба было вяртацца да запаветаў Маа Цзэдуна з яго стаўкай на планавую гаспадарку.

Зрэшты, нягледзячы на шырокі спектр меркаванняў, амаль усе, хто сабраліся на той пекінскай плошчы ўвесну 1989-га, пагаджаліся, што ўрад і партыя моцна карумпаваныя, а гэта патрабуе, у сваю чаргу, дэмакратызацыі сістэмы кіравання.

Магчыма, гэты праграмны пункт, які відавочна быў пагрозай для ўсёй «вертыкалі», і дазволіў кансерватарам узяць верх над лібераламі ва ўнутрыпартыйнай дыскусіі наконт таго, што рабіць з Цяньаньмэнь. Прыкладна да сярэдзіны траўня 1989-га было прынятае прынцыповае рашэнне аб падаўленні пратэсту. Адпаведна, наверсе быў складзены лагістычны план перакідвання войскаў у сталіцу і задзейнічання іх на месцы.

Паводле плану, удзельнічаць у аперацыі павінна была і 38-я армія Сюй Цыньсяня. 20 траўня генерал атрымаў вусны загад рушыць у Пекін супраць студэнтаў-пратэстоўцаў. Генерал адказаў, што не можа выканаць вусны загад, і запатрабаваў пісьмовага. Візаві ў Генштабе адказаў, што цяпер «ваенны час», і пісьмовы загад будзе пазней. Генерал, у сваю чаргу, адзначыў, што фармальна ніякай вайны няма, і ў выніку выканаць загад адмовіўся.

Тады да яго асабіста прыбыў камандуючы акругай і запатрабаваў пачаць перакідванне вайскоўцаў на сталіцу. Сюй Цыньсянь спытаў, ці ўхвалілі такое рашэнне тры кіраўнікі Цэнтральнай вайсковай камісіі (орган, які кантралюе войска з боку Кампартыі). Высветлілася, што з трох кіраўнікоў згоду далі толькі двое — лідар краіны Дэн Сяапін і кіраўнік дзяржавы Ян Шанкунь. Затое ўстрымаўся генеральны сакратар Кампартыі Чжаа Цзыян (неўзабаве за гэта ён будзе зняты з пасады і пажыццёва змешчаны пад хатні арышт). Без ухвалення Чжаа Цзыяна генерал Цыньсянь зноў адмовіўся выконваць загад.

Адначасова ён папрасіў адпачынак па хваробе. Яго просьба не была задаволеная. У канфідэнцыйнай абстаноўцы з сябрамі ён казаў, што хутчэй пойдзе пад пакаранне, чым увойдзе ў гісторыю злачынцам.

Цяперашнія гісторыкі тлумачаць пазіцыю генерала асабістым знаёмствам са студэнтамі і іх поглядамі. Калі пачаліся пратэсты, ён выпадкова трапіў у сталічны шпіталь, адкуль часам хадзіў на Цяньаньмэнь. Падчас размоў з пратэстоўцамі ён, магчыма, мог пераканацца ў тым, што выступы не інспіраваныя штучна, а транслююць думкі народу.

Так ці інакш, тое, што рабіў тады камандуючы 38-й арміі, нагадвала адкрыты акт непадпарадкавання. Хутка Ян Шанкунь загадаў арыштаваць Цыньсяня і змясціць у турму. Замест яго 38-я армія атрымала новага камандзіра. Што да старога, то той неўзабаве паўстаў перад ваенным трыбуналам. Але нават на судзе ён застаўся непахісны, кажучы, што «народна-вызваленчая армія ніколі ў сваёй гісторыі не выкарыстоўвалася для падаўлення людзей». «Я катэгарычна адмаўляюся зганьбіць гэта гістарычнае дасягненне!» — казаў падсудны.

Тое, што пасля такіх адкрытых антыўрадавых дэмаршаў Цыньсянь атрымаў усяго пяць гадоў турмы ды быў выключаны з шэрагаў партыі, можна лічыць цудам. Як адзначалася вышэй, напэўна, адным з фактараў такога не вельмі жорсткага вердыкту з'яўлялася гераічнае мінулае генерала.

Пасля заканчэння турэмнага тэрміну генералу забаранілі жыць у сталіцы. Яму давялося з'ехаць у родную правінцыю Хубэй, дзе ён атрымаў месца ў афіцэрскім памяшканні. Пра яго апошнія гады жыцця вядома мала. Ёсць інфармацыя, што ён працягваў падтрымліваць кантакты з вайскоўцамі, якія крытыкавалі рэжым. Дэфіцыт інфармацыі тлумачыцца таксама тым, што шмат хто даўно запісаў Сюй Цыньсяня ў нябожчыкі. Не верылася, што бунтаўніка не пакаралі смерцю за сваю пазіцыю яшчэ ў 1989-м.

Літаральна незадоўга да яго смерці стала вядома, што Цыньсянь усё ж такі жывы. Яго паспеў наведаць журналіст адной з газет Ганконга. У размове з ім генерал прызнаўся, што праз шмат гадоў пасля фатальнага для свайго лёсу рашэння пра няўдзел у разгоне Цяньаньмэня, у яго няма ані кроплі шкадавання наконт свайго ўчынку.




Фота www.lifestyle.24tv.ua

# Чаго чакаць ад Джыл?

Алег НОВІКАЎ

**Напярэдадні інаўгурацыі Джо Байдэн абвясціў у ЗША пачатак эры «перабудовы». А якая ж перабудова без сваёй Раісы Максімаўны, ролю якой павінна выканаць новая першая лэдзі Джыл Байдэн.**

Яшчэ да пачатку непасрэднага выканання функцый першай лэдзі Джыл прапісалася ў гісторыі. Яна будзе трэцяй «першай лэдзі», якая раней была «другой лэдзі» (так называюць жонак віцэ-прэзідэнтаў). Раней за яе падобным шляхам прайшлі Барбара Буш і Пэт Ніксан. Таксама Джыл будзе першай «першай лэдзі» італьянскага паходжання. Нарэшце, Джыл Байдэн дакладна будуць памятаць як першую жонку прэзідэнта, якая працягне сваю працоўную кар'еру, як яна, дарэчы, рабіла падчас кадэнцыі «другой лэдзі». Прынамсі, Джыл ужо абвясціла пра свой намер сумяшчаць працу і функцыі гаспадыні офіса прэзідэнта.

Напэўна, у іншы час такога партфоліа хапіла б, каб выклікаць павагу прэсы і грамадства. Аднак цяпер — час пераменаў. Новай адміністрацыі трэба не толькі аб'яднаць нацыю, выцягнуць краіну з эканамічнага крызісу, але і адкрыць перад Амерыкай новыя гарызонты. Калі верыць прэсе, каток рэформаў павінен прайсці і па інстытуце першай лэдзі.

Гэты інстытут і цяпер надзвычай архаічны. Быць першай лэдзі — азначае ахвяраваць сваёй кар'ерай і ўласнымі планамі ды жаданнямі для выканання цырыманіяльных працэдур і падтрымкі публічнага вобразу добрай жонкі, якая гадуе дзяцей і сочыць за домам, пакуль муж абараняе свет.

Нават Мішэль Абама з яе гарвардскім дыпломам і сучаснымі густамі давялося дбаць пра агарод Белага дома і ўпрыгожваць калядную ялінку. Зрэшты, будучы першай афраамерыканкай на такой высокай пасадзе, ёй перш за ўсё трэба было давесці ўсім, што чарнаскурая першая лэдзі не горшая за белых папярэдніц.

Чаго чакаць цяпер ад Джыл — дачкі банкаўскага касіра і хатняй гаспадыні з Пенсільваніі, якая скончыла ўніверсітэт з дыпломам па англійскай мове? Яе жыццёвы шлях і расповеды знаёмых і сяброў малююць наступную карціну. Джыл, будучы жонкай сенатара, асабліва ў палітыку не лезла, але пры гэтым заўсёды дапамагала Джо і натхняла яго выходзіць на новыя рубяжы. Менавіта па яе ініцыятыве той пагадзіўся балатавацца ў прэзідэнты. Дарэчы, з Джо Байдэнам яна пазнаёмілася ў 1975 годзе ў рамках так званага «Спаткання ўсляпую». Каб заключыць шлюб, ёй давялося спачатку аформіць развод — прычым, не атрымаўшы сваёй долі маёмасці.

Будучы другой лэдзі аж восем гадоў, яна запомнілася найперш тым, што працягвала выкладаць у адным з каледжаў. І адначасова была ўдзельніцай праграмы мужа па дапамозе сем'ям вайскоўцаў і кампаніі дапамогі ахвярам рака.

Зрэшты, чамусьці сам факт таго, што Джыл можа сумяшчаць працу першай лэдзі і выкладанне ў каледжы, выклікае за акіянам захапленне. Падаецца, што заакіянская палітычная культура навязвала жонкам палітыкаў больш суровыя правілы — у адрозненне ад Еўропы. Тут яшчэ ў 1990-я гады нікога асабліва не шакаваў факт, што Чэры Блэр — жонка прэм'ера Тоні Блэра, — не сядзіць на Даўнінг-Стрыт, а выкладае ва ўніверсітэце.

«Можа стаць складанай задачай збалансаваць асабістую працу і велізарныя абавязкі першай лэдзі, але, думаю, гэта пашырыць нашы ўяўленні пра тое, на што здольныя першыя лэдзі», — кажа Кейт Браўэр, аўтарка шматлікіх біяграфій жонак прэзідэнтаў. «Джыл Байдэн стане найменш традыцыйнай першай лэдзі ў найноўшай гісторыі», — сцвярджае ў сувязі з гэтым брытанскае выданне The Guardian. Дапускаючы, што Джыл з яе адукацыяй можа стаць дарадцам прэзідэнта па некаторых пытаннях.

Пры гэтым The Guardian прызнае, што радыкальныя трансфармацыі першай лэдзі могуць мець адмоўныя наступствы: «Многія амерыканцы хочуць мець звыклую першую лэдзі — першую жонку, першую маці, першую гаспадыню. Жанчына, у якой кар'ера на першым месцы, ім сто працэнтаў не трэба. І ўжо дакладна іх не зацікавіць жанчына, што мае амбіцыі выглядаць больш кампетэнтнай за прэзідэнта». Такі непрымальны для кансерватыўнага электарату стыль, як некаторыя лічаць, не дазволіў Хілары Клінтан у 2016-м абысці Трампа.

З іншага боку, вынікі апытанняў кампаніі Gallup паказалі, што большасць амерыканцаў не супраць, каб жонка прэзідэнта адначасова займалася ўласнай кар'ерай. Акрамя гэтага, прэзідэнцтва Байдэна падаюць у кантрасце з тым, што было пры яго папярэдніку. Гэта тычыцца таксама іміджу першай лэдзі. Мелані Трамп выглядала не як асоба, а хутчэй як трафейная жонка Дональда Трампа, і ў такой ролі ёй, падаецца, таксама было вельмі камфортна. Па-сутнасці, яе пастаянная праца палягала ў тым, каб выглядаць чароўнай жонкай свайго магутнага мужа, што выклікала гарачае непрыманне ў шэрагах феміністак. Відавочна, новая першая лэдзі будзе цурацца падобнага стылю, і ўвогуле класічных спажывецкіх стэрэатыпаў успрымання жанчыны.

Так ці інакш, тэхнічна сумяшчаць працу выкладчыцы і гаспадыні ў Белым доме — гэта нешта новае. Таму некаторыя карэкціроўкі звыклага вобразу першай лэдзі непазбежныя. Тым больш, што правілы паводзінаў жонак прэзідэнтаў у Канстытуцыі не прапісаныя. У тым ліку таму ў свой час на эксперыменты ішлі такія культавыя першыя лэдзі амерыканскай гісторыі, як Элеанор Рузвельт або Жаклін Кенэдзі.

Усе цяперашнія жарсці наконт Джыл Байдэн — гэта толькі кветачкі. Праз узрост і кепскае здароўе новы прэзідэнт, як кажуць некаторыя эксперты, можа не дажыць да канца кадэнцыі. Тады кіраўніком Белага дому стане віцэ-прэзідэнтка Каміла Харыс, якая ў шлюбе з адвакатам Дугласам Эмхафам. У сувязі з гэтым нельга выключаць, што нам давядзецца пазнаёміцца з такой пакуль не бачанай у ЗША з'явай, як «першы джэнтльмен».

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Дзяніс Шмыгаль



Усё ідзе да таго, што бліжэйшым часам прэм'ер-міністра Украіны, чый кабінет абапіраецца на галасы фракцыі дэпутатаў прэзідэнцкай партыі «Слуга народа», чакае адстаўка. Усё з-за таго, што з 1 студзеня ва Украіне выраслі тарыфы на газ. Хутка краіну ахапілі тарыфныя пратэсты. На 18 студзеня пратэсты зафіксаваныя ў 150 гарадах і вёсках.

У адказ Кабмін Дзяніса Шмыгаля, чый рэйтынг імгненна спікіраваў да 10 працэнтаў, пастанавіў знізіць цэны, аднак украінцы працягваюць ладзіць бунты, бо не вераць заявам міністраў. Справа ў тым, што Украіна абяцала МВФ, чый крэдыт вельмі важны для падтрымкі эканомікі, не ўплываць на рынак газу.

Сваю негатыўную ролю ў гэтай гісторыі адыгрывае і той аспект, што Уладзімір Зяленскі стаў прэзідэнтам у тым ліку за кошт абяцанняў зменшыць плату за камуналку. Таму ў прэзідэнта ёсць свая падстава прынесці Шмыгаля ў ахвяру. Тым больш, што сітуацыя вось-вось можа стаць яшчэ горшай. Наступны этап цяперашніх пратэстаў, як лічаць эксперты, будзе палітычным. Тарыфныя акцыі будуць намагацца выкарыстоўваць у сваіх мэтах апазіцыйныя сілы, у першую чаргу «Бацькаўшчына» і «Платформа за жыццё», якія запатрабуюць правядзення новых выбараў.

Хаця сам Шмыгаль адмаўляе магчымую адстаўку, ужо называюць кандыдатуры на яго месца. Пакуль прэтэндэнт нумар адзін — цяперашні міністр аховы здароўя Украіны Максім Сцяпанаў, які мае больш-менш пазітыўны імідж за кошт актыўнай барацьбы з эпідэміяй. Прычым Сцяпанаў, паводле крыніцаў у прэзідэнцкім офісе, можа ўзначаліць урад ужо ў лютым.

### Альберт II, князь Манака



Такое ўражанне, што кіраўнік княства (горада-дзяржавы ў Паўднёвай Еўропе, якая па сутнасці асацыяваная з Францыяй, аднак захоўвае фармальную аўтаномію) аднавіў у вачах французаў прэстыж манархічнай сістэмы ўлады. Усё праз каранцін, які набыў у Францыі жорсткія формы: тэатры і рэстараны закрыліся яшчэ ў кастрычніку мінулага года — і невядома, калі жыццё вернецца да нормы.

А вось у Манака ніякага каранціну не абвяшчалі. Тут не спыняліся рулеткі ў казіно, функцыянавалі гульнявыя аўтаматы, у тэатрах ставілі п'есы, гатэлі прымалі замовы на калядныя і навагоднія святы. У выніку паміж княствам і Францыяй пачалося нешта накшталт канфлікту. Кіраўнікі мэрый і дэпартаментаў поўдня Францыі вінавацілі Манака ў распаўсюдзе вірусу праз нашэсце французаў у княства. У сваю чаргу, улады Манака перакладалі ўсю адказнасць за рост колькасці хворых на Францыю.

У выніку, праўда, перамог мацнейшы. Пад ціскам Парыжа княству давялося ўвесці абмежаванні — камендантскую гадзіну з сямі вечара, а рэстарацыі будуць працаваць толькі ў дзённы час і абслугоўваць выключна мясцовых жыхароў. Каб абмежаваць наплыў суседзяў, паліцыя возьме пад кантроль вакзал, дзе спыняюцца цягнікі з Францыі. Аднак і рэстарацыі, і тэатры, і казіно так ці інакш працягнуць працу, што для французаў — сапраўдная мара. Як жартуюць журналісты, перавага манархіі ўсё роўна відавочна.

### Міхаіл Саакашвілі



Экс-прэзідэнт Грузіі ў эфіры аднаго з грузінскіх каналаў звярнуў увагу на катастрафічныя для Грузіі наступствы дамоўленасцяў пра «разблакіроўку ўсіх эканамічных і транспартных сувязяў у рэгіёне». 12 студзеня такое рашэнне прынялі ў Маскве прэм'ер Арменіі Нікола Пашынян і прэзідэнт Азербайджана Ільхам Аліеў пры пасярэдніцтве Уладзіміра Пуціна. Дамова прадугледжвае стварэнне калідора з тэрыторыі Азербайджана ў анклаў — Нахічэвань, які павінен прайсці праз Арменію. Калі праект будзе рэалізаваны, Азербайджан атрымае новы транспартны маршрут у Нахічэвань і Турцыю, Расія — у Турцыю і Арменію праз Азербайджан, а Арменія — у Іран і Расію. І такім чынам, геапалітычнае значэнне Грузіі рэзка знізіцца.

Як адзначае экс-прэзідэнт, Грузія можа ператварыцца ў «ампутаваную частку Паўднёвага Каўказу», якая «нікому не патрэбная». Гэта, у сваю чаргу, паўплывае на цікавасць да краіны знешніх гульцоў і створыць абсалютна новую сітуацыю на Каўказе. Шэраг грузінскіх экспертаў перакананыя, што апакаліптычная карціна, намаляваная экс-прэзідэнтам, далёкая ад рэальнага стану рэчаў. Улады Грузіі дасягнутую ў Маскве дамоўленасць да гэтага часу не каментуюць. Але тэма ўсё роўна відавочна ўвайшла ў нацыянальныя палітычныя дэбаты.



Сяргей ШАПРАН

# Як судзілі Святлану Алексіевіч

**Заканчэнне. Пачатак у №2**

## «Мы дзяцей страцілі, а ёй — слава»

***З судовай позвы Іны Сяргееўны Галаўнёвай, маці загінулага старшага лейтэнанта Юрыя Галаўнёва:***

«[...] У апублікаваным маналогу, падпісаным маім прозвішчам, маюцца недакладнасці і скажэнні фактаў, якія я паведаміла С. Алексіевіч, а таксама адкрытая хлусня, выдумкі, то-бок пераказаныя нібыта з маіх слоў абставіны, пра якія я не паведамляла. Вольная інтэрпрэтацыя маіх выказванняў, а таксама яўныя домыслы, пераказаныя нібыта ад майго імя, зневажаюць мой гонар і годнасць, пагатоў аповесць дакументальная. Як я мяркую, аўтар-дакументаліст абавязаны дакладна пераказваць атрыманую інфармацыю, мець запісы гутарак, узгадняць тэксты з інтэрв'юаванымі.

Так, Алексіевіч піша ў артыкуле: "Няхораша маці ў гэтым прызнавацца, але я любіла яго больш за ўсіх на свеце. Больш за мужа, больш за другога сына". (Гаворка ідзе пра майго загінулага сына Юру.) Прыведзеная цытата прыдуманая (не адпавядае майму аповеду). Згадка пра нібыта розную ступень любові да сыноў прывяла да канфлікту ў сям'і, мяркую, прыніжае маю годнасць. [...]

Алексіевіч сказіла і мой нібыта аповед пра абставіны адпраўкі сына ў Афганістан. Яна ўказвае на нібыта яговыя словы: «Я паеду ў Афганістан, каб даказаць ім, што ў жыцці ёсць і высокае, і не кожнаму хапае для шчасця забітай мясам лядоўні». Нічога такога не было. Сцверджанні Алексіевіч зневажаюць мяне і майго сына. Як нармальны чалавек, патрыёт, рамантык, ён добраахвотна прасіўся ў Афганістан.

Не казала я Алексіевіч і такіх фразаў, калі западозрыла пра намер сына папрасіцца ў Афганістан: «Цябе заб'юць там не за Радзіму, цябе заб'юць невядома за што... Хіба можа Радзіма пасылаць на згубу...» Я сама адправіла яго туды. Сама! [...]».

***З выступу ў судзе І. С. Галаўнёвай:***

«...Месяц я ляжала плазам. Не хацела нікога чуць. Усё ў маім доме было вымкнутае. Я нікому не адчыняла дзвярэй. Алексіевіч была першая, хто ўвайшоў у мой дом. Яна сказала, што хоча напісаць праўду пра вайну ў Афганістане. Я ёй паверыла. Сёння яна прыйшла, а назаўтра мяне меліся пакласці ў больніцу, і я не ведала, вярнуся я адтуль ці не. Я не хацела жыць, без сына я не хацела жыць. Калі Алексіевіч прыйшла, яна сказала, што піша дакументальную кнігу. [...] І я ёй аддала дзённік свайго сына, які ён там вёў: «Вы хочаце напісаць праўду, — сказала я, — вось яна, у дзённіку майго сына».

Потым мы з ёй гутарылі. Я ёй расказала сваё жыццё, бо мне было цяжка, я поўзала на каленках у чатырох сценах. Я не хацела жыць. Яна мела з сабой дыктафон і ўсё запісвала. Але не сказала, што будзе гэта друкаваць. Я ёй апавядала проста так, а надрукаваць яна мусіла дзённік майго сына. [...]

Але я ёй верыла, я чакала кнігі. Я чакала праўды: за што забілі майго сына? [...]

Алексіевіч гэтага не надрукавала, праўды майго сына. Іншай праўды быць не можа, праўду маюць тыя, хто там быў. Яна чамусьці апісала маё жыццё. Простай, дзіцячай мовай. Якая гэта літаратура? Гідкая маленькая кніжыца... [...]

Сын мой вырас на палігонах, ён пайшоў па слядах бацькі. У нас дзяды, усе браты бацькі, стрыечныя браты — усе ў войску. Вайсковая дынастыя. І ў Афганістан ён паехаў, таму што быў сумленны чалавек. Ён даў ваенную прысягу. Калі трэба, ён паехаў. Я выхавала цудоўных сыноў. Яму загадалі, ён паехаў, ён быў афіцэр. А Алексіевіч хоча даказаць, што я маці забойцы. І мой сын там забіваў. Што выходзіць? Я яго туды пасылала? І дала яму ў рукі зброю? Мы, мацеркі, вінаватыя, што там была вайна? [...]

Мы дзяцей страцілі, а ёй — слава...»

## Ці можна судзіць за праўду?

І была яшчэ адна судовая позва — былога радавога Тараса Кецмура, і новыя абвінавачванні: з Алексіевіч наогул не сустракаўся і нічога не распавядаў... І гучалі ў судзе галасы маці загінулых у Афганістане савецкіх салдатаў і афіцэраў, да якіх далучаліся галасы абураных ветэранаў Другой сусветнай вайны: «Як смелі абліваць брудам магілы нашых хлопчыкаў. Яны да канца выканалі свой абавязак перад Радзімай», «Абывацель зараз ва ўсім абвінаваціць гэтых васямнаццацігадовых хлопчыкаў... Вось што вы зрабілі!..», «Зірніце на іх фатаграфіі... Якія маладыя, якія прыгожыя! Хіба ў забойцаў бываюць такія твары? Мы вучылі сваіх дзяцей любіць Радзіму... Навошта вы напісалі, што яны там забівалі? За даляры напісалі... А мы — жабракі. На лекі не хапае. Кветак на магілу сынам няма на што купіць», «Не трэба пытацца ў маці: забіваў яе сын ці не забіваў? Яна памятае адно — яе сына забілі...», «Праз такіх пісакаў, як вы, мы сёння здаём свае пазіцыі ўва ўсім свеце... Польшчу страцілі, Нямеччыну, Чэхаславакію... Мы яшчэ дажывём да таго дня, калі Гарбачова будуць судзіць за гэта. І вас таксама. Вы — здраднікі. Дзе вашы ідэалы? Дзе нашая вялікая дзяржава?»



Фота з архіву Святланы Алексіевіч

І былі абразы прама ў зале суда. І пагрозы забіць і парэзаць на кавалкі. І тэлефанавалі і гаварылі, дзе Алексіевіч сёння была і як была апранутая... А ў царкве заламалі свечку на яе смерць... Сябры-літаратары прапанаўвалі ўсталяваць дзяжурства, але яна была фаталістам і адказвала, што навучылася годна прымаць удары ў сваіх настаўнікаў Алеся Адамовіча і Васіля Быкава. «Проста трэба ўмець спакойна рабіць сваю працу, трэба ўмець не мітусіцца, — гаварыла Алексіевіч мне потым, і дадавала, маючы на ўвазе сваіх абвінаваўцаў: — Яны ўсе аказаліся закладнікамі — закладнікамі ідэі, закладнікамі краіны, якая, прадаўшы іх, знікла і не было з каго ўжо спытаць. Таму прасцей было спытаць з пісьменніцы. Але я ўсё роўна схіляюся і перад маці, і перад загінулымі хлопцамі».

Ад суда яе не ратавала нават заступніцтва вядомых пісьменнікаў-франтавікоў Міколы Аўрамчыка, Янкі Брыля, Васіля Быкава, Аляксандра Дракахрусты, Навума Кісліка і Валянціна Тараса, якія пісалі на адрас суда: «Паважаючы асабістую мужнасць салдатаў і афіцэраў, пасланых брэжнеўскім кіраўніцтвам КПСС змагацца за чужую, раней сяброўскую нам краіну, шчыра падзяляючы смутак мацярок, чые сыны загінулі ў афганскіх гарах, пісьменніца разам з тым бескампрамісна выкрывае ў гэтай кнізе ўсе спробы гераізаваць ганебную афганскую вайну, спробы рамантызаваць яе, развенчвае хлуслівую патэтыку і фальшывыя хваласпевы. [...] Так, яна не паказвала іх рамантычнымі героямі. Але толькі таму, што цвёрда трымалася талстоўскага запавету: "Герой... якога я люблю ўсімі сіламі душы... быў, ёсць і будзе — праўда". Дык ці можна абражацца на праўду? Ці можна за яе судзіць?»

З беларускімі літаратарамі былі салідарныя вядомыя пісьменнікі Расіі і Польшчы, але суд не прыняў гэта пад увагу, гэтаксама як двойчы не прыняў хадайніцтва аб правядзенні літаратурнай экспертызы. Між тым, паводле заключэння дырэктара Інстытута літаратуры імя Я. Купалы Акадэміі навук Беларусі Віктара Каваленкі і старшага навуковага супрацоўніка інстытута Міхася Тычыны, «Цынкавыя хлопчыкі» — твор дакументальнай літаратуры, дзе літаральны, кропля ў кроплю, пераказ аповедаў герояў немагчымы, усё тут вырашае воля аўтара і яго здольнасць злучаць дакументальнасць з мастацкай выявай. Гэтаксама мае права аўтар і на змену прозвішчаў і імёнаў герояў. Зрэшты, пра гэта казала і сама пісьменніца: «...Я мушу даказваць, што ёсць праўда і праўдападабенства, што дакумент — гэта не даведка з ваенкамата і не трамвайны квіток. Тыя кнігі, якія я пішу, гэта і дакумент, і адначасова мой вобраз часу... Я не выдумляю, не дадумваю, а збіраю кнігу з самой рэчаіснасці...»

А яшчэ яна гаварыла-пісала: «...Я прыйшла паразмаўляць з мацяркамі. Папрасіць у іх прабачэння за тое, што нельга здабыць ісціну без болю. У мяне ўсё тое ж пытанне, што і ў маёй кнізе: хто мы такія? Чаму з намі можна рабіць усё, што заўгодна? Вярнуць маці цынкавую труну, а потым пераканаць яе падаць у суд на пісьменніцу, што напісала, як гэтая маці не магла нават пацалаваць свайго сына апошні раз і абмывала травамі, гладзіла цынкавую труну... Хто ж мы такія?..

У маёй кнізе "Цынкавыя хлопчыкі" матчыны аповеды — найжурботнейшыя старонкі. Маці моляцца пра сваіх забітых сыноў...

Чаму ж цяпер мы сядзім у судзе насупраць адно аднаго? Што ж адбылося за гэты час?..

Кажуць, што малітва маці і з дна марскога дастане. У маёй кнізе яна дастае іх з нябыту. Яны — ахвяры на алтары нашага цяжкога пакаяння. Яны — не героі, яны — пакутнікі. Ніхто не смее кінуць у іх камень. Мы ўсе вінаватыя, мы ўсе датычныя да той хлусні — пра гэта мая кніга. Чым небяспечны любы таталітарызм? Ён усіх робіць саўдзельнікамі сваіх злачынстваў. Добрых і злых, наіўных і прагматычных.... Маліцца трэба за гэтых хлопчыкаў, а не за ідэю, ахвярамі якой яны сталі. Я хачу сказаць мацяркам: не хлопчыкаў сваіх вы тут бароніце. Вы абараняеце страшную ідэю. Ідэю-забойцу...»

Тым не менш аўтара «Цынкавых хлопчыкаў» судзілі. Судзілі імем Рэспублікі Беларусь. Судовы вырак абвяшчаў: паколькі Алексіевіч і рэдакцыя «Комсомольской правды», дзе і былі апублікаваныя фрагменты з кнігі, не прадставілі доказаў адпаведнасці сапраўднасці звестак, значыцца, яны несапраўдныя. Таму пісьменніца мусіць выбачыцца перад Тарасам Кецмурам, а газета павінна надрукаваць абвяржэнне. Што ж датычыць позвы Іны Галаўнёвай, суд хоць і прызнаў, што частка звестак, прыпісаная яе аўтарству, не адпавядае рэчаіснасці, тым не менш яе позва была адхілена, бо была прадстаўлена касета з запісам выступу Галаўнёвай на мітынгу некалькі гадоў таму, дзе яна падтрымлівала аўтара «Цынкавых хлопчыкаў»...

...Мы неаднойчы яшчэ гаварылі пра гэты гучны судовы працэс, які Святлана Алексіевіч называла маральнай траўмай, аднак ні ў якім разе не паразай, — кажучы гэта, яна спасылалася на свайго ўлюбёнага Талстога: "Памятаеце, у "Войне и мире" П'ера Безухова вядуць на расстрэл, і спачатку ў яго ўзнікае пачуццё страху, а потым раптам ён пачынае смяяцца: "Мяне расстраляць? Маю несмяротную душу? Ды няўжо гэты французік можа мяне расстраляць?.." Гэтак жа і пісьменнік — калі ён думае пра сур'ёзныя рэчы, ён існуе ў зусім іншай прасторы. І гэта не пагарда — гэта проста стан духу, які вы выхоўваеце літаральна штодня. Бо я ж не толькі кнігі пішу, мой галоўны клопат — гэта праца над сваёй душой. А калі я буду знаходзіцца на ланцугу ў часу, што я напішу?.. Таму каго тады судзілі? — маю кнігу. Але яны не маглі судзіць мой светапогляд, маю несмяротную душу».

А тады, у 1993-м, пакідаючы залу суда пасля чарговай адмовы пра літаратурную экспертызу, Святлана Алексіевіч казала: «Як чалавек... Я папрасіла прабачэння за тое, што прынесла боль, за гэты недасканалы свет, у якім часта немагчыма нават прайсці па вуліцы, каб не закрануць іншага чалавека... Але як пісьменніца... Я не магу, не маю права прасіць прабачэння за сваю кнігу. За праўду!»

**У артыкуле выкарыстаны фрагменты з кнігі Святланы Алексіевіч «Цынкавыя хлопчыкі» ў перакладзе з рускай мовы Андрэя Хадановіча.**

# Леанід Лыч: «Нам патрэбна дзяржаўная палітыка беларусізацыі з дэрусіфікацыяй»

Дзіяна СЕРАДЗЮК



**«Я так люблю працаваць — у гэтым мая сіла», — прызнаваўся прафесар, доктар гістарычных навук Леанід Лыч. Гэта інтэрв'ю было запісанае напярэдадні 90-гадовага юбілею Леаніда Міхайлавіча. 17 студзеня 2021 года, не дажыўшы ўсяго некалькі тыдняў да 92-гадоў, з-за COVID-19 выдатны навуковец, шчыры чалавек, адданы сын зямлі беларускай адышоў у лепшы свет. Ён працаваў да апошняга, прапаноўваў артыкулы «Новаму Часу», працаваў над кнігай успамінаў. Ён так шмат яшчэ збіраўся зрабіць... Мы вырашылі яшчэ раз апублікаваць гэта інтэрв'ю, каб нагадаць, якога чалавека згубіла Беларусь.**

***— Спадар Леанід, пэўна, тое, чым становіцца чалавек, закладаецца ў дзяцінстве. Што вызначыла ваш жыццёвы шлях, чаму вы вырашылі прысвяціць жыццё вывучэнню беларускай нацыятворчасці?***

— Мясцовасць, дзе я нарадзіўся — вёска Магільна Уздзенскага раёна, — была мястэчкам. І хоць у савецкі час такой назвы ўжо не было, мы ганарыліся, што мы местачкоўцы. Да вайны наш народ вельмі любіў сваю культуру і звычаі. І хоць царкву ў нас разбурылі ў 1937-м, на святы ўсё роўна людзі апраналіся па-святочнаму. Гэта цяпер кажуць «вышыванка», а тады казалі проста «святочны ўбор». І бабулі, і дзяўчаты былі такія прыгожыя, глянеш — ажно ўся вуліца як вышыванка.

Мы жылі ля самай савецка-польскай мяжы з усходняга боку. І калі раней выкладанне ў школах было на беларускай мове, то напрыканцы 1930-х ужо не ўсе настаўнікі маглі гаварыць па-беларуску. І тады ад бацькі я пачуў слова «русяць» — не па-нашаму гавораць, бо мы ж беларусы! Унутры ў людзей была такая свядомасць.

Калі пачалася вайна, непераможная Чырвоная Армія адступала ў панічным страху. А з вясковага народу ніхто не ўцёк, усе засталіся, бо былі ўпэўненыя, што іх немец чапаць не будзе. Наступіла акупацыя, і бацька кажа: «Дзеткі, як адкрыюць школу — пойдзеце вучыцца». А я да вайны скончыў пяць класаў. І мы пайшлі ў школу, якая была чыста беларуская. Настаўнікі таксама размаўлялі выключна па-беларуску. А затым нам сталі ўводзіць мову Тарашкевіча, і мой бацька — нягледзячы, што калгаснік, — кажа: «О, да нас нацдэмаўшчына вярнулася».

У школе можна было пачуць тое, пра што нам не казалі за савецкім часам. Напрыклад, пра гісторыю Беларусі. Раней нам настаўнікі адказвалі, што тут была пустэча і не было ніякага жыцця. А пры немцах расказвалі, што тут і пяць, і сем тысяч гадоў таму жылі людзі, толькі ніхто гэта не даследаваў.

***— Калі ўжо вы ўзгадалі нацдэмаўшчыну, мо прыгадаеце, як вашу мясцовасць закранулі рэпрэсіі?***

— Вельмі моцна. Мы жылі на мяжы, а на мяжы трэба, каб былі «артадаксальна чыстыя» савецкія людзі. Там, дзе можна было да нечага прычапіцца, — чапляліся, і людзей высылалі. Але яны настолькі мірна да гэтага ставіліся: наплачуцца на двары, паабдымаюцца з суседзямі, сядуць на воз і разам з міліцыянерам едуць ва Узду, дзе ўжо з імі распраўляліся. Але быў і такі выпадак, калі міліцыянер сказаў: «Скіньце дзяцей з возу». І тыя дзеці, застаўшыся без бацькоў, двое сутак дабіраліся да Магільна. Я думаю, у нас было вывезена 15–20 працэнтаў жыхароў з вёскі. І вывозілі самых прыстойных людзей — заможных, не гультаёў, не п'яніц.

Майго бацьку таксама аднойчы выклікалі ў сельсавет. Ён меў такую-сякую адукацыю, мог крытычна аналізаваць сітуацыю і сказаць пра гэта камусьці на вёсцы. І гэта стала прычынай, каб напісаць на яго ў сельсавет, які ў тыя часы меў паўнамоцтвы спецслужбаў. Аказалася, сусед паскардзіўся. Калі запытаўся, куды бацька ідзе, той адказаў: «На пякарню дровы пілаваць — іду, як на паншчыну». Але тады за яго заступіўся дырэктар школы, і бацьку адпусцілі. Увогуле, бацька крытыкаваў тых, хто ехаў моўчкі, калі іх забіралі. Казаў: «А я б ці каменем стукнуў, ці паленам шпульнуў — я б сябе абараняў!» А маці гаварыў: «Калі па мяне прыйдуць, я ім жывым не здамся, і хоць аднаго гада ды забʼю». Але, дзякуй Богу, нас гэта абмінула.

***— Але ж неўзабаве прыйшла вайна...***

— Я вам скажу, што гэта людзей мабілізавала. За гады акупацыі ў нашай вёсцы не было ніякага крадзяжу, бойкі паміж сабою, ніводнага разводу. Калі пачалася партызаншчына, вялікі фактар адыграла геаграфічнае становішча: Нёман аддзяляў нас ад раённай управы, дзе панаваў акупацыйны рэжым. Таму наша тэрыторыя забяспечвала партызан, а тая — паліцэйскіх. Але былі выпадкі, калі ў Нёмане маглі адначасова з аднаго боку плёскацца партызаны, а з іншага — паліцаі. Яны бачылі адзін аднаго — і разыходзіліся. Кажуць, што наш народ можна падзяліць на тых, хто прыслугоўваў немцам, і тых, хто быў адданы савецкай уладзе. Але, ведаеце, у нас яшчэ было і этнічнае адзінства людзей.

Увосень 1942-га года мы засталіся без бацькі. У яго была хвароба, якую я паўтарыў у яго ўзросце, але мне зрабілі аперацыю. Тады ніхто гэтага не мог зрабіць, і бацька ў 41 год памёр. І нас пецярых гадавала маці. Я станаўлюся перад ёй на калені, бо ў такім горы яна ніколі перад намі не плакала і не казала, як ёй было цяжка. Гэта была вельмі гераічная жанчына. Праўда, яна супраціўлялася, калі я пасля заканчэння вайны захацеў вучыцца. Бо я быў старэйшым хлопцам у сям'і.

***— І ўсё ж лёс склаўся так, што вы паехалі вучыцца?***

— Пасля сямі класаў я з'ехаў у Мінск і паступіў у статыстычны тэхнікум. Паступіў — і не ведаю, на каго я буду вучыцца. А ўсё праз маці. Усе сярэднеспецыяльныя навучальныя ўстановы ўжо скончылі наборы, і адзін толькі статыстычны тэхнікум не мог набраць. Ну я і падумаў, што трэба туды ісці. У каго ні пытаўся, нават з настаўнікаў ніхто не мог адказаць, што гэта за тэхнікум. Казалі: «Ну ідзі, разбярэшся як-небудзь».

Гэта быў верасень 1945 года. Мінск тады быў беларускамоўны: пры немцах горад пераважы беларусізацыю, да таго ж быў наплыў вёскі, таму ўсе размаўлялі па-свойму. Шмат дзе стаялі знакі: «Трымайся руху з правага боку». Дэмабілізаваных воінаў сустракалі надпісамі не «Слава красноармейцам!», а «Хвала чырвонаармейцам!».

У тэхнікуме навучанне было па-руску, але адчувалася, што моладзь адносна мовы выкладання не згодная. Тады да нас прыйшла выкладаць рускую мову выпускніца Маскоўскага ўніверсітэта, вельмі прыгожая дзяўчына. І вырашыла правесці з намі занятак пра вартасць рускай мовы. Мы яе наслухаліся, і асабліва мне запомніліся яе словы, што, калі хочаш быць культурным і ва ўсім дасведчаным, дайсці да гэтага можна толькі праз рускую мову. Ну я ж прыехаў сюды не валацугам быць, а каб сапраўды стаць культурным чалавекам! І пачаў пакрысе пераходзіць на рускую мову. Хаця маці, як мяне праводзіла, казала: «Сынок, я цябе прашу: не гавары ты на людзях па-гарадскому».

***— Чытала, што вам давялося служыць у Азёрлагу. Ці гэта праўда?***

— Праўда. Пасля заканчэння тэхнікума я вельмі хацеў стаць афіцэрам. У авіяцыйнае вучылішча паступіць не змог — нешта было са здароўем, — і пайшоў у школу Міністэрства ўнутраных спраў. У тыя часы міліцыя была ў пашане. Пайшоў толькі таму, што яны рыхтавалі афіцэраў для службы ў памежных войсках. Але з часам школа згубіла гэты профіль, і я думаў, што мне пашанцавала, бо не буду на мяжы, ці яны мацней... 

Азёрлаг — гэта быў лагер палітычных зняволеных, такіх лагераў поўна было ў Сібіры, на Далёкім Усходзе і на крайняй Поўначы. Гэта быў зусім іншы свет, ён стаў для мяне багацейшай школай. Я зразумеў, што ніякага камунізму мы не будуем, што сядзяць тут людзі, нязгодныя з тымі, хто сёння пры ўладзе, якія бясконца любяць свае народы: рускія — рускіх, украінцы — украінцаў, беларусы — беларусаў. І ў мяне адразу ўзнікла жаданне звольніцца, але як ты звольнішся, калі толькі пачаў служыць? І вырашыў набірацца досведу. Я працаваў аператыўным упаўнаважаным, меў права выклікаць вязняў і пытацца пра іх жыццё: чаму яны трапілі ў лагер. Стаў вывучаць іх і савецкую сістэму. І яшчэ больш пераканаўся, што намі кіруе купка злодзеяў-чыноўнікаў, якія любога могуць загнаць сюды, калі ўбачаць у ім ворага. Адзін з вязняў мне сказаў: «Грамадзянін начальнік, вы асабліва не ўнікайце ў сутнасць нашага палітычнага рэжыму, ён вельмі складаны. Сярод нас таксама ўсялякія ёсць. Тое, пра што вы гаворыце, таксама можа быць дакладзена, куды трэба».

Але трымацца адных поглядаў, а выконваць іншае — гэта было не для мяне, і я зламаўся. Настолькі, што задумаліся, ці ў норме ў мяне псіхіка, бо я самавыключыўся з камсамолу. Калі мяне абралі сакратаром камсамольскай арганізацыі, у мяне былі крытычныя думкі наконт яе. Я прасіў, каб мяне пераабралі, на што мне сказалі: «Тады вы не афіцэр». І тут я зрываю з сябе пагоны і кідаю на стол. Многім падалося, што нармальны чалавек так не зробіць, і мне наладзілі наведванне псіхіятрычнай абласной бальніцы ў Іркуцку. Пасля мяне зрабілі інспектарам па культуры ў калоніі інвалідаў.

Пасля смерці Сталіна сталі разбірацца, хто сядзіць у лагерах, а таксама дэмабілізаваць афіцэраў. Але многія з іх былі ў роспачы, не ведалі, як цяпер жыць і ўтрымліваць сям'ю. Таму з адным з іх я памяняўся: замест яго дэмабілізавалі мяне, за што ён даў мне поўны збор твораў Пушкіна. Я прыехаў у Уфу, паступіў на гістарычны факультэт Башкірскага педагагічнага інстытута і атрымаў вышэйшую адукацыю.

З 1950 па 1958 гады я жыў па-за межамі Беларусі. І тое, што казала настаўніца рускай мовы, я стрымаў: стаў вельмі добра валодаць літаратурнай рускай мовай. У той жа час я заўсёды лічыў сябе беларусам, і калі маю нацыянальнасць пісалі «рускі», я настойваў, каб перапісвалі.

***— Як вы вярнуліся да беларускай мовы?***

— Калі мы з жонкай у жніўні 1958 года ехалі ў цягніку ў Беларусь, як толькі мы пераехалі Смаленскую вобласць, у цягніку сталі гаварыць па-беларуску. А я восем гадоў не чуў гэтай мовы. У мяне заняло дыханне, і слёзы з вачэй пайшлі.

Прыехаўшы ў Мінск, я наўсцяж чуў рускую мову, таму працягваў размаўляць на ёй, зміры́ўся. І толькі калі стаў працаваць у Інстытуце гісторыі Акадэміі навук, да мяне сталі прыглядацца хлопцы з Заходняй Беларусі. Паміж сабою, калі не было нікога з начальства, яны размаўлялі па-беларуску. А я з імі — па-руску. Яны мяне пачалі крытыкаваць за гэта, а потым усё ж уламалі, за што хачу ім сказаць вялікі дзякуй. Я стаў пацішу размаўляць з імі па-беларуску — гэта аказалася не так проста. Таму я вельмі гуманна стаўлюся да тых, хто не адважваецца перайсці на беларускую альбо мала яе ўжывае ў грамадскіх месцах.

Але хлопцам я сказаў, што загавару толькі тады, калі адчую, што размаўляю літаратурна правільна.

Працяг на стар. 12 »

# «Новы Час» больш не будзе прадавацца ў шапіках «Белсаюздруку»

**Падчас здачы чарговага нумару «Новага Часу» на экспедыцыю мы выпадкова даведаліся, што ўжо з лютага «Белсаюздрук» разрывае з намі дамову.**

Такім чынам, з лютага наша газета больш не будзе прадавацца ў шапіках. Яе можна будзе атрымаць толькі па падпісцы. Спадзяемся, такая магчымасць да канца чэрвеня ў нашых чытачоў яшчэ застанецца.

У гандлёвым аддзеле РУП «Белсаюздрук» не сталі тлумачыць прычыну адмовы ад распаўсюду. Гэтак жа, як і не маглі адказаць, ці накіравалі нам адмысловы ліст з паведамленнем пра спыненне супрацоўніцтва. І хаця прычына гэта відавочная, усё ж хацелася б пабачыць ад кіраўніцтва «афіцыйны» ліст.

Дарэчы, у стандартнай дамове, якую ўсе выданні заключаюць з «Белсаюздрукам» на экспедыцыю, няма нават згадкі пра тое, што экспедытар павінен паведаміць замоўніку пра спыненне супрацы. Так што фармальна яны нічога не парушылі. Ну не хочуць больш прадаваць нейкі там «Новы Час» — і ўсё тут.

Цікава, што яшчэ не так даўно з тым жа гандлёвым аддзелам РУП «Белсаюздрук» мы размаўлялі пра тое, каб павялічыць колькасць асобнікаў, на распаўсюд, бо са жніўня 2020-га працэнт спісання газеты значна знізіўся, а ў Гродзенскай вобласці быў амаль нулявы. Відаць, грошы «Белсаюздруку» не патрэбныя.

Але, спадзяемся, мы патрэбныя нашым чытачам. Таму заклікаем усіх, хто да гэтага часу набываў нашу газету ў шапіках «Белсаюздруку», аформіць падпіску на «Новы Час». Зрабіць гэта можна ў любым паштовым аддзяленні (часам кажуць, што няма такой газеты, не верце!). А таксама анлайн па спасылцы:

***https://belpost.by/onlinesubscription/items/22706***

Да 27 студзеня яшчэ можна паспець аформіць падпіску.

**ПАДПІСНЫ ІНДЭКС «НОВАГА ЧАСУ» — 63279**

Кошт падпіскі: на 1 месяц — 4 рублі 14 капеек, на адзін квартал — 12 рублёў 42 капейкі, на паўгоддзе — 24 рублі 84 капейкі.

**Шаноўныя чытачы! Нам вельмі патрэбна ваша падтрымка!**

# Леанід Лыч: «Нам патрэбна дзяржаўная палітыка беларусізацыі з дэрусіфікацыяй»

**« Заканчэнне. Пачатак на на стар. 11**

Але загавару ўжо ўсюды — ці гэта будзе пасяджэнне навуковай рады, ці канферэнцыя.

У 1960–1970-я гады, калі падыходзіў да касы набыць квіток на канцэрт і чуў ад людзей, што квіткоў ужо няма, казаў касірцы па-беларуску: «Ну пашукайце як-небудзь!» Не паверыце — шукалі!

***— А цяпер? Як вы ўвогуле ацэньваеце змены, якія адбыліся ў беларускай нацыянальнай прасторы за час незалежнасці?***

— Я хачу сказаць: чаму Бог нас так пакрыўдзіў гэтай сімвалічнай незалежнасцю? Вы паглядзіце, колькі іншыя былыя савецкія краіны ўсяго зрабілі для свайго нацыянальна-культурнага адраджэння. Яны сталі зусім іншымі. А мы што? Пагроза татальнай русіфікацыі беларускага народа цяпер больш страшная, чым пры Савецкім Саюзе. Тады казалі, што савецкі народ — гэта розныя этнічныя супольнасці, якіх аб'ядноўвае самая развітая мова — руская. А цяпер многія беларусы ўжо пагадзіліся з тым, што кажа Лукашэнка: руская мова — наша, руская культура — наша. Дзяржаўная суверэннасць нічога нам не дадала ў нашай этнакультурнай самабытнасці. Больш за тое, яна забрала ў нас тое, што захоўвалася пры савецкай уладзе.




Я лічу апошнія 25 гадоў самымі хмарнымі, бо тых этнакультурных стратаў, якія мы панеслі за гэты час, мы не ведалі за ўсю нашу гісторыю. Нават Расійская імперыя пасля далучэння ў 1795 годзе амаль усёй Беларусі не зрабіла за 25 гадоў таго, што зрабілі мы. Мы, па сутнасці, згубілі сваю родную мову. Мова жывая толькі тады, калі яна абслугоўвае афіцыйнае грамадскае і дзяржаўнае жыццё. А народ без культуры і мовы — гэта гной для колькаснага павелічэння іншых народаў. Паглядзіце, як мы істотна павялічылі колькасць «рускіх» ад таго, што згубілі мову і культуру. А колькі беларусаў перайшло ў палякаў, украінцаў, літоўцаў, латышоў? І цяпер у нашага народа такое ўражанне, што ў нас няма нічога свайго, што беларуская мова і культура — гэта выдумка, што мы — рускія. Не дай Божа, калі сюды прыйдуць рускія войскі. Хоць Лукашэнка і кажа, што кожнаму беларусу дадуць па аўтамату — кожны беларус выкіне яго і скажа: «Дык ідуць да нас нашыя людзі!»

Спадзявацца на тое, што мы гульнямі і днямі беларускай мовы адродзім мову, ніяк не выпадае. Нам патрэбна кардынальная дзяржаўная палітыка беларусізацыі паралельна з дэрусіфікацыяй. Але варта нам толькі займець сапраўдны нацыянальны ўрад, як на працягу трох-пяці гадоў усё можна будзе паставіць з галавы на ногі.

Свет вельмі добра ведае, як прыгнятаюцца нацыянальныя правы баскаў, валійцаў, ірландцаў і каталонцаў, але свет нічога не ведае, што робіцца ў Беларусі. Нам трэба праз усе каналы ісці ў цывілізаваны свет і паказваць, што ў нас робіцца ў краіне. Я думаю, свет не будзе абыякавы да лёсу дзесяцімільённага этнасу, які мае такую багатую гісторыю і знікае з твару зямлі. Мы абавязкова знойдзем падтрымку сярод прагрэсіўнай грамадскасці свету.

*Рэдакцыя «Новага Часу» выказвае шчырыя спачуванні родным і сябрам Леаніда Міхайлавіча Лыча. Хай яму там будзе лёгка і светла. А мы тут будзем яго памятаць і працаваць дзеля беларушчыны. Светлая памяць!*




Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г. (c) Новы Час
Галоўны рэдактар **Колб Аксана Мікалаеўна**
Намеснік рэдактара **Пульша Сяргей Пятровіч**
Стыль-рэдактар **Пяроўская Святлана Віктараўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 263 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА** 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 17 347-52-81; +375 29 625-57-51, novychas@gmail.com; novychas.by
Падпісны індэкс 63279.

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні ТАА «Ролл-Прынт». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. ЛП №02330/484 ад 16.02.2018. Замова №111

Падпісана да друку 21.01.2021. 8.00. Наклад 4200 асобнікаў. Аб'ём 3 друк. аркушы. Кошт свабодны.